# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 27—28 (289—290) 12 — 25 ліпеня 1997 г. КОШТ 3000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ•ПРЭЗЕНТУЕ•РАЗВАЖАЕ





# ВІЦЕБСКІЯ КАНІКУЛЫ



**Два апошнія тыдні карэспандэнты "К" толькі і рабілі, што вандравалі па Віцебшчыне. Пэўна, таму мы жартаўліва ахрысцілі Віцебск "бермудскім трохкутнікам". І сапраўды, "акулы пяра" літаральна патаналі ў інфармацыйным віры. Словам, тры падзеі — падарожжа нашай "выязной рэдакцыі" ў "Здраўнёва", дзе стаіць пашкоджаны пажарам Дом-музей Іллі Рэпіна, Шагалаўскі пленэр і "Славянскі базар", якія не давалі нам нават ноччу паспаць, — увайшлі ў першую палову нашага, можна сказаць, віцебскага нумара. І нічога дзіўнага, гэты старажытны горад імкліва становіцца яшчэ адной сталіцай дзяржавы — культурнай! Ва ўсякім разе, і нябесныя, і эстрадныя зоркі гэта прадказваюць...**

## ЧАС ЗРАБІЦЬ І ДЛЯ РЭПІНА

Леташні "Славянскі базар", акрамя вядомых сваіх падзей, быў адзначаны таксама і акцыяй, не звязанай непасрэдна з "Базарам". Па ініцыятыве журналістаў беларускай газеты "Культура" быў прыняты Зварот да грамадскасці трох славянскіх дзяржаў з заклікам падтрымаць адначўленне музея-сядзібы Іллі Рэпіна ў ваколіцах Віцебска, што пацярпеў падчас пажару.

І вось з'явілася надзея на тое, што сядзіба ў Здраўнёве пазбавіцца статуса "пагарэльца" і зробіцца жывым, дыхаючым арганізмам і што ўдзельнікі і госці "Славянскага базару" пачатку трэцяга тысячагоддзя змогуць убачыць "фенікса", які ўзняўся з попелу.

Сваю першую акцыю з заклікам да грамадскасці аб аказанні дапамогі гэтаму унікальнаму помніку культуры Беларусі, што духоўна належыць усім тром славянскім народам, наша рэдакцыя пачала адразу пасля пажару ў Здраўнёве, гэта было ў 95-м... Скажам шчыра, мецэнатаў, нашчадкаў Марозава і Шчукіна, для аднаўлення рэпінскага музея-сядзібы тады не знайшлося. У наступным, 96-м, падчас юбілейнага "Славянскага базару", карэспандэнты "Культуры" выехалі ў Здраўнёва і на свае вочы пабачылі, што засталося ад сядзібы вялікага мастака. А менавіта ж тут, на віцебскай зямлі, нарадзіліся ягоныя "беларускія" творы, сярод якіх — "Месячная ноч", "Дуэль", "Восеньскі букет", "Беларус". Кіруючыся высакароднымі памкненнямі і адначасова разумеючы, што ў найскладанейшы для эканомікі час мясцовыя ўлады, ды і мясцовыя мецэнаты, не ў стане адрадзіць былы выгляд гістарычнай сядзібы, мы сталі ініцыятарамі вышэйпамянёнага Звароту, які і быў апублікаваны на нашых старонках. Падпісалі яго знакамітыя артысты, кампазітары, пісьменнікі, рэжысёры, журналісты, мастакі трох краін, якія бралі ўдзел у "Славянскім базары". У Звароце, у прыватнасці, было адзначана:

"...Існуюць адвечныя каштоўнасці, што належаць усяму чалавецтву. Сярод іх — і спадчына вялікага мастака. Таму лічым: кожны павінен зрабіць свой унёсак у аднаўленне музея-сядзібы "Здраўнёва", аднаўленне справядлівасці. Як немагчыма падзяліць нашы народы, так і немагчыма разарваць наша мастацтва. І лёс вялікага Рэпіна — прыклад гэтага".

(Заканчэнне на стар. 2)

# БАЗАРЫ

## (Замалёўкі журналісцкім пяром)

***"Славянскі базар", што прайшоў з 11 па 16 ліпеня ў Віцебску, насамрэч не адзін "базар", а некалькі. У ягонай праграме:***

***— Міжнародны музычны фестываль;***

***— Міжнародны фэст дзіцячых шоу-праграм;***

***— Кінапаказ "Прэм'еры славянскага кіно";***

***— Фестываль фальклору і народнай творчасці;***

***— Дыска-базар, джаз-клуб, "Музычная гасцёўня" і г.д.***

***Па не ўдакладненых пакуль яшчэ звестках, ва ўсіх праграмах фестывалю бяруць удзел госці з дваццаці чатырох краін свету — не толькі славянскіх. Патронамі "Славянскага базару" выступілі прэзідэнты Беларусі, Расіі, Украіны, а падтрымалі правядзенне фэсту ўрады Балгарыі, Македоніі, Югаславіі, Славеніі і Польшчы. Конкурсная праграма для маладых выканаўцаў прадугледжвала чатыры ўзнагароды: Гран-пры "Залаты певень" (грашовая ўзнагарода — дзесяць тысяч долараў ЗША), першая, другая і трэцяя прэміі, адпаведна — "залатое", "сярэбранае" і "крышталёвае" яйкі (шэсць, чатыры і дзве тысячы долараў). Пераможцаў вызначала міжнароднае журы з шаснаццаці членаў, якое ўзначальваў Ігар Лучанок.***

***У гэтых нататках я не буду апісваць тое, што кожны пры жаданні мог убачыць і пачуць, бо падзеі "Базару" асвятляліся шматлікімі тэле- і радыёкампаніямі (аб'ём, напрыклад, тэлетрансляцый — больш за 50 гадзін!). Гэта — напросту погляд знутры на працу тых, дзякуючы каму фестываль адбыўся, — артыстаў, арганізатараў, ягоных гасцей і сяброў.***

### ЮБІЛЕІ

У свой час на "Славянскім базары" адзначалі свае юбілеі "Песняры", Йорданка Хрыстава, Людміла Зыкіна і іншыя. Сёлета ўраджай юбіляроў асабліва буйны: чвэрць стагоддзя на сцэне адзначыла Сафія Ратару, 10-годдзе — аркестр пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, 75-годдзе і 60 гадоў на сцэне — канферансье Барыс Бруноў, 30 гадоў творчасці — Бісер Кіраў, 30-годдзе — Філіп Кіркораў. Нагадаў пра свае 10 гадоў на сцэне і Аляксандр Саладуха. Кожны з юбіляраў шчодра і больш-менш шчыра распавядаў пра сябе падчас "Рандэву з зоркай" — гэта цыкл прэс-канферэнцый у штабе фестывалю, гарадскім Культурным цэнтры. Фрагменты гэтых споведзяў яшчэ доўга будуць з'яўляцца ў прэсе — на старонках "Культуры" таксама. Сярод "зорак"-не-юбіляраў у прэс-цэнтры пабывалі "Іванушкі-інтэрнэшнл", Валерый Меладзе, вядучыя Алена Спірыдовіч, Алена Роміна-Касічэнка, Уладзімір Бярэзін, Валерый Лявонцьеў, Марыля Радовіч, а таксама кінашнікі на чале з вядомымі акцёрамі Аляксандрам Міхайлавым і Ганнай Ціханавай. Дарэчы, гэта была самая малалюдная прэс-канферэнцыя, што засведчыла месца кінапаказаў у праграме фестывалю. Пакуль гэтую чэсць не возьме на сябе які-небудзь адказны "гаспадар" — так і будзе надалей. Між тым паказы ў кінатэатры "Спартак" збіралі поўныя залы. Ніводнага вольнага месца не было, напрыклад, на фільме "Батанічны сад" Уладзіміра Гасцюхіна.

Па-ранейшаму пазбягае журналістаў Сафія Ратару. Што не пашкодзіла ёй бліскуча правесці свой паўтарагадзінны канцэрт і "завесці" пяць тысяч удзячных гледачоў, як ніводная шоу-група.

### БЯСПЕКА

Праца службы бяспекі, якой кіраваў Леанід Багарад, не кідалася ў вочы, між тым сваю справу служба рабіла належным чынам. Толькі прыгожая пластыкавая картка з фота давала права яе ўладальніку наведваць мерапрыемствы фестывалю, у адпаведнасці з узроўнем акрэдытацыі, ад шостага (сэрвіс) да першага (арганізатар). "Ніякіх "левых" спраў!" — кажуць, гэты заклік зрабіў наш міністр культуры, і "левых", гэта значыць "блатных", спраў не было... У Амфітэатры за парадкам сачылі ад 30 да 40 пільных і дужых хлопцаў, і нават жорсткія меры, што ім даводзілася часам прымаць, адзначала дакладная карэктнасць. Леанід Багарад зазначыў, што ўсе сілы бяспекі — не толькі "свае", нанятыя карпарацыяй "Славянскі базар", але і міліцыя, і вайскоўцы — прайшлі падрабязны інструктаж. Сведчу: плённы. "Сілавікі" не дазвалялі сабе лішняга, хоць на сваім стаялі цвёрда. Па словах спадара Багарада, нічога дрэннага з артыстамі на фестывалі здарыцца не магло. Дадам, што з гасцямі — таксама.

### ПЕРАД ПАЧАТКАМ

"Касмачовай няма!" — вялікім літарамі на дзвярах пакоя службы ўладкавання. І ніжэй дапісана ад рукі: "Ніколі!", што не пакідала ўвогуле ніякай надзеі тым, хто шукаў дапамогі менавіта Таццяны Касмачовай, дырэктаркі фестывалю. А шукалі яе амаль усе: толькі яна магла вырашыць, дзе падзецца госцю — журналісту, артысту, калі ягонае месца ў гатэлі нечакана аказалася занятым, ці там няма такога неабходнага тэлефона, або разам з артыстам прыехалі ахоўнікі, першапачаткова не заяўленыя. Як ні дзіўна, служба ўладкавання ўсе гэтыя пытанні неяк вырашала — тытанічнымі намаганнямі. Таму, напэўна, пазней на тых самых дзвярах з'явілася другая аб'ява:

"НЯМА:
— Касмачовай;
— Люсі (адказная за пасяленне);
— грошай;
— аўтатранспарту;
— вольных месцаў у гасцініцах".

Усе гэтыя "няма" не адносіліся да сапраўдных сяброў фестывалю, напрыклад Алега Елісеенкава, вядомага кампазітара, які сюды прыйшоў не з пустымі рукамі — з вядром першых чарніц: вітаміны вельмі патрэбны дзяўчатам у іхняй нервовай працы!

### ДНІ

У рамках "Славянскага базару" прайшлі чатыры дні нацыянальных культур — Украіны, Расіі, Беларусі і Балгарыі. Удзел балгар сёлета вельмі заўважны. Галоўным чынам гэта "зоркі" мінулых гадоў ці нават дзесяцігоддзяў: Лілі Іванава, Йорданка Хрыстава, Бісер Кіраў. Сучасны дыска-гурт "Спрынт" таксама неблагі, але наўрад ці ўвойдзе ў гісторыю. Канцэрт Філіпа Кіркорава дапоўніў дзень балгарскай культуры: Філіп падрыхтаваў сюрпрыз, праспяваў па-балгарску.

Беларускі дзень "круціўся" вакол імя Міхаіла Фінберга, расійскі — вакол Барыса Брунова, украінскі — вакол Украіны. Што б там ні казалі (Руслана Лыжэчка, мінулагодняя пераможца "Базару", параўнала ўкраінскі канцэрт з шэрым колерам сваёй кашулькі), украінцы вартыя павагі менавіта за тое, што ў сваім гала-канцэрце здолелі звесці разам, даволі ўдала, арыгінальныя фальклорныя нумары з эстрадай. Мяккая ўкраінская мова ўвогуле часта гучала з канцэртнай пляцоўкі, нават віншаванне Леаніда Кучмы было прачытана па-ўкраінску, без перакладу. На жаль, мова гаспадароў, не менш прыгожая, цяпер на фестывалі — амаль экзотыка...

### НОЧЫ



*ЗаЖУРЫліся Марыля Радовіч і Уладзімір Някляеў.*

Самае цікавае адбываецца на "Славянскім базары" ноччу. Начамі — звычайна апоўначы — праходзілі канцэрты Валерыя Меладзе, "Агаты Крысці", Аляксандра Саладухі, вялікага россыпу "зорак" расійскай эстрады — у Дзень Расіі, Філіпа Кіркорава — у Дзень Балгарыі, нарэшце, у самую апошнюю ноч, Валерыя Лявонцьева. Зазвычай гэта двухгадзінныя канцэрты без антракту і фанаграм. Віцьбічы бачылі сапраўдную, прафесійную працу. Хай нават Валерый Меладзе быў не ў лепшым голасе — крыху асіплы, хай ён з-за гэтага трохі больш звычайнага проста размаўляў на канцэрце, але ж калі спяваў — то на поўны голас, не шкадуючы сябе. Хай кудлатыя браты-салісты "Агаты Крысці" не надта ветліва абыходзіліся з паклоннікамі: замест таго каб прымаць кветкі — проста кідалі на падлогу, маўляў, кідайце гэтае смецце пад ногі... але ж свае дэкадансавыя песенькі адспявалі так, што танчылі не толькі падлеткі — асноўная іхняя публіка, а і нешматлікія дарослыя, забыўшыся на свой паважны ўзрост. Незвычайна прыгожы, бліскучы, чысцюткі Філіп Кіркораў выглядаў на сцэне так велічна, што кветкі напачатку да яго нават не даносілі, ускладалі проста на апошнюю прыступку лесвіцы, як на пастамент помніка. Уражанне недасягальнага бажаства трымалася ўвесь канцэрт, усе дзве гадзіны і дзесяць хвілін. За гэты час Філіп чатыры разы цалкам мяняў касцюм, а ягоны балет рабіў гэта ўдвая часцей. І якія гэта былі касцюмы! Цыганы, шансанеткі, свецкія дзівы — і, зразумела, рознакаляровыя плюшавыя зайкі. Гледачы, мяркуючы па рэакцыі, дасягнулі найвышэйшага экстазу, а хто не здолеў — пасля заканчэння яшчэ сорак хвілін чакалі куміра ля бялюткага дзевяціметровага лімузіна — і дачакаліся: ён выйшаў разам з Алай Барысаўнай, якая на "Базар" прыехала інкогніта...



*На сцэне танцавальная група Дзяржаўнага народнага хору імя Цітовіча.*

Аднак сапраўдныя паўночнікі на "Базары" наведвалі джаз-клуб. Сюды, у памяшканне на 50 чалавек, нават акрэдытацыя не давала магчымасці трапіць — прыходзілі выключна запрошаныя. Як зазначыў вядучы Уладзімір Феертаг, "джаз назаўсёды застанецца мастацтвам элітарным"... Джазавыя сесіі працягваліся аж да чатырох гадзін раніцы. Высветлілася, што ў Беларусі джаз існуе даўно. І не толькі ў вялікіх цэнтрах: самы першы джаз-клуб прадставіў ансамбль з Полацка "Полацк-Аніма-Квартэт". Былі ў клубе балгары — "Доні і Момчыл", Нагіма Ескаліева з Казахстана. Сапраўды зорным быў клуб пасля 13 ліпеня, Дня Беларусі: у клубе сабраліся "Яблычны чай" з Мінска, вядомая вакальная група "Дайджэст" з Санкт-Пецярбурга і Вячаслаў Ганелін, той самы, які некалі кіраваў трыо ў Вільнюсе, дзе і дагэтуль працуюць Уладзімір Чакасін і Уладзімір Тарасаў. Сам Ганелін даўно ўжо жыве ў Ізраілі, на "Славянскі базар" прыехаў у якасці члена журы. Але, відаць, не стрываў перад угаворамі Уладзіміра Феертага і выканаў 40-хвілінную кампазіцыю "Экслібрыс", пасля якой самыя дасведчаныя выстройваліся ў чаргу, каб падзякаваць майстру.



*Беларускі дзень на "Славянскім базары".*

### СКАНДАЛЫ, або ЧАМУ "КАКТУСАМ" НЕ АДДАЛІ РОЛІКІ?

А як жа без скандалаў? Самая дакладная арганізацыя творчага свята не магла б іх выключыць, бо народ тут сабраўся асаблівы, нешараговы. Падчас украінскага гала-канцэрта, на самым пачатку, ва ўскрайніх сектарах глядзельнай залы раптам пачуліся незадаволеныя крыкі ды свіст. Нумар быў прыгожы, масавы — "Гуцульская рапсодыя". Што ж не спадабалася гледачам? Высветлілася, што ім не відаць сцэны. Арганізатары, пэўна, каб зберагчы час, выставілі на сцэну высокія штабялі гукавых калонак, якія меркаваў скарыстаць гурт "Агата Крысці" — пазней, у начным канцэрце. Давялося ўсім — рабочым, ахоўнікам, якіх падштурхоўваў сам Радзівон Бас, дырэктар Генеральнай дырэкцыі фестывалю, — тэрмінова разбіраць гэтыя штабялі...

Канцэрт украінцаў быў разнастайны і — працяглы, аж да самай магчымай мяжы дазволенага часу. Між тым па незразумелых прычынах да гэтага канцэрта далучыла свой Сафія Ратару — без перапынку. Вядома, тыя, хто прыйшоў на канцэрт, не пашкадавалі. Шкадавалі і лаяліся іншыя — тыя, хто прыйшоў на наступны, на гурт "Агата Крысці", і Сяргей Анціпаў, які гэты гурт меркаваў паказаць у прамым эфіры ў сваёй праграме "А". Арганізатары неяк прызналіся, што "рэкордна" кароткая паўза паміж канцэртамі была 38 хвілін: столькі часу спатрэбілася, каб вывесці ўсіх гледачоў папярэдняга і "запусціць" наступных. Ратару скончыла канцэрт у 10 хвілін па поўначы. Рэкорд застаўся непабітым, бо канцэрт "Агаты Крысці" пачаўся ў гадзіну дваццаць. Напэўна, большасць гледачоў-тынейджэраў упершыню ў жыцці так позна не спалі...

(Заканчэнне на стар. 16)





*"Бунт" на караблі Амфітэатра.*



*Таццяна Касмачова з'явілася на гарызонце разам з маэстра Фінбергам.*

№ 27—28 12 — 25 ліпеня 1997 г.

PLENIAIR

# "ГЭТЫ ГОРАД — ПРОСТА ЦУД..."

Апошнія два дні шагалаўскіх святаў былі гранічна насычаны. Выставы, канцэрты, прэс-канферэнцыі, "круглыя сталы"... Людзі, згодна з колам зацікаўленняў, спяшаліся хто куды: адны — на вернісаж выставы "Я — з Віцебска", падрыхтаванай мастацтвазнаўцам Мікалаем Паграноўскім, іншыя — у Мастацкі музей на выставу Марка Шагала і выставу твораў мастакоў міжнароднага Саюза сяброў мастацтва "Палітра" з нямецкага горада Франкфурта-на-Майне, трэція — у абласны краязнаўчы музей паглядзець экспазіцыю твораў удзельнікаў II Міжнароднага Шагалаўскага пленэру, чацвёртыя — адпачывалі, назапашваючы сілы для вечара.

Увечары чакалася падвядзенне вынікаў пленэру і ўзнагароджанне лепшых, а ў 22 гадзіны — у скверы імя Маякоўскага — феерычнае тэатралізаванае відовішча "Прысвячэнне Майстру".

І было яшчэ шмат іншага, не менш цікавага: VII Міжнародныя Шагалаўскія чытанні з удзелам шагалазнаўцаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Францыі, Германіі, Швейцарыі. І быў "круглы стол" крытыкаў і мастацтвазнаўцаў з мастакамі — удзельнікамі пленэру. І быў цудоўны канцэрт Пермскага тэатра балета пад кіраўніцтвам Яўгена Панфілава "Барабан для Сусвету, а скрыпка без смутку". Славутыя мадэльеры-дызайнеры, лаўрэаты рэспубліканскага конкурсу "Белая амфара", паказалі свае творы паводле матываў мастацтва вялікага Шагала...

А тым часам у абласным краязнаўчым музеі амаль палову дня праходзіла пасяджэнне журы II Міжнароднага Шагалаўскага пленэру, якое ўзначальваў першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь спадар Уладзімір Рылатка. У ягоным складзе — эксперт "Northerm and Nensy Dodge collection Zimerby Art Museum" (ЗША) Зміцер Дымшыц, прэзідэнт прамысловага комплексу "Жыльбел" Валерый Жыльцоў (Беларусь), галоўны захавальнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі мастацтвазнаўца Мікалай Паграноўскі, загадчык сектара культуры і друку Упраўлення сацыяльна-культурнай палітыкі апарату Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь мастацтвазнаўца Уладзімір Пракапцоў, прадстаўнік Diamond Dust Art Management Рэне Сімер (Швейцарыя) і аўтар гэтых радкоў.

У выніку тайнага галасавання былі вызначаны пераможцы пленэру. Імі сталі Аляксандр Ксяндзоў (Гран-пры, Беларусь), Яўген Гінзбург (Расія), Раймандас Савіцкас (Літва), Сяргей Цімохаў (Беларусь), Інара Петрусевіч (Латвія), Сюзанна Бауман (Швейцарыя).

А позна ўвечары адбылося грандыёзнае тэатралізаванае відовішча, прысвечанае Марку Шагалу. Я ўзяў некалькі кароткіх інтэрв'ю ў людзей, якія непасрэдна звязаны з шагалаўскімі святамі.



**Гюнтэр КАМАЦКІ, вядомы швейцарскі калекцыянер, які падарыў Віцебску чатыры літаграфіі Марка Шагала:** "Я — уладальнік галерэі ў горадзе Маленс. У маім зборы каля 500 твораў Шагала, праўда, у асноўным друкаваная графіка. З Маркам Шагалам давялося пазнаёміцца незадоўга да ягонай смерці, калі ён прыязджаў у Швейцарыю на лячэнне. З тае пары збіраю ягоныя творы. У Віцебску я ўпершыню. Безумоўна, горад ужо не той, што на карцінах Шагала, і гэта натуральна. Было б дзіўна, калі б Віцебск застаўся сёння ранейшым, шагалаўскім. Але, мне здаецца, у мастацтве Шагала галоўнае — не архітэктура, а паэтычны вобраз, духоўная аўра, што захавалася. У перспектыве мне б хацелася паказаць калекцыю маёй галерэі беларусам"...



**Сюзанна БАЎМАН, мастачка, лаўрэат II Міжнароднага Шагалаўскага пленэру (Швейцарыя):** "Хацела б здзейсніць свой праект будаўніцтва ў Віцебску "энергетычнай вежы". Гэта будзе канструкцыя з жалеза і храмаванай сталі з каляровымі шклянымі ўстаўкамі. Яе вышыня — 40 метраў. Ёсць ужо і спонсары — нашчадкі Марка Шагала. Побач з вежай, што магла б быць пабудавана ў адным з паркаў горада, будуць месціцца скульптурныя творы мастакоў з розных краін свету. На кожным з сямі ўзроўняў вежы будуць усталяваны сонечныя батарэі. Гэтае збудаванне я задумала як прыёмнік для энергетычных каналаў, а мэта — зрабіць Віцебск культурным цэнтрам свету. Такія вежы плануецца пабудаваць яшчэ ў шаснаццаці гарадах, у тым ліку Нью-Йорку, Токіо, Іерусаліме, Гановеры".

**Зміцер ДЫМШЫЦ, мастак, эксперт (ЗША — Украіна):** "Я з задавальненнем працаваў у складзе журы па вызначэнні лепшых мастакоў пленэру. Вельмі рады, што меркаванне членаў журы было практычна аднагалосным, а значыць, аб'ектыўным, асабліва што датычылася першых трох пераможцаў — Ксяндзова, Гінзбурга, Савіцкаса. У Віцебску я ўпершыню, але Мінск наведваў некалькі разоў. Ведаю творчасць Леаніда Шчамялёва, Аляксея Марачкіна, Віктара Ціханава, Анатоля Анікейчыка. Дарэчы, многія кажуць, што я знешне вельмі падобны да гэтага скульптара. Я не быў з ім знаёмы, але творы ягоныя бачыў — і ў Мінску, і ў Ароу-парку, недалёка ад Нью-Йорка. Што да Віцебска, дык гэты горад — проста цуд. У ім адчуваецца шагалаўская аўра. Дзівосны горад, які ведаў Цадкіна і Фалька, Лісіцкага і Дабужынскага, Малевіча і Пуні..."

**Барыс КРЭПАК**



*Уладальнік Гран-пры Шагалаўскага пленэру Аляксандр Ксяндзоў.*



*Балет "Барабан для Сусвету".*



*Пленэр юных мастакоў Віцебска.*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА ("К"), Віктара ТАЛОЧКІ і Аляксандра ХІТРОВА (БелТА).**



# ТАК ЯНО

Напрыканцы 1923 года Віцебскі мастацка-практычны інстытут быў рэарганізаваны ў мастацкі тэхнікум. У энцыклапедыях і спецыяльнай літаратуры аб гэтым можна знайсці толькі адзін-два радкі. Прыкладна так: творчасць Шагала, Малевіча, Лісіцкага і іншых "фармалістаў" была чужая для савецкіх людзей, і яны яе не прымалі... На самай справе яшчэ задоўга да таго, як пачаў гвалтоўна ўводзіцца "сацрэалізм", у Віцебску знайшліся людзі, якія часткова з прычыны невуцтва, а ў большай ступені з прычыны асабістай непрыязі "дабілі" мастацкую школу, без згадак пра якую цяпер не абыходзіцца ніводнае даследаванне пра сучаснае мастацтва XX стагоддзя.

А справа была такая...

Напрыканцы 1918 года (афіцыйна ў студзені 1919-га) Марк Шагал, выкарыстоўваючы мандат упаўнаважанага па справах мастацтваў Віцебскай губерні, што даваў яму права на стварэнне навучальных устаноў, заснаваў у Віцебску Народную мастацкую школу. У мастацтвазнаўчай літаратуры, уключаючы манаграфіі і энцыклапедыі, існуе памылковае меркаванне, што гэтая навучальная ўстанова была створана на базе прыватнай школы Іегуды (Юрыя) Пэна. На самай справе "акадэмія" Шагала, у поўным сэнсе гэтага слова, узнікла на пустым месцы. І толькі дзякуючы энергіі і настойлівасці самога Марка Захаравіча. "Ідэя аб арганізацыі мастацкай вучэльні прыйшла мне ў галаву пасля вяртання з замежжа, падчас працы над "віцебскай серыяй" эцюдаў, — паведамляў Шагал мастацтвазнаўцу П.Этынгеру 2 красавіка 1920 года. — У Віцебску... мастацкія дараванні дзесьці спалі. Адарваўшыся ад палітры, я паімчаў у Піцер, Маскву — і вучэльня створана напрыканцы 1918 г. У сценах яе каля 500 юнакоў і дзяўчат розных класаў, розных дараванняў і... накірункаў".

Навучальная ўстанова размясцілася ў добрым памяшканні — нацыяналізаваным двухпавярховым мураваным доме банкіра Вішняка на Васкрасенскай вуліцы, незадоўга да гэтага перайменаванай у Бухарынскую. Як гэтага ўдалося дамагчыся Шагалу, невядома. Але тое, што зрабіць гэта было надзвычай складана, сумненняў не выклікае. У гэты час Віцебск з'яўляўся прыфрантавым горадам, вайсковыя дзеянні ішлі недалёка: палова Полацка і ўся Орша былі акупаваны Германіяй. У горадзе з амаль 100-тысячным насельніцтвам дадаткова аказалася яшчэ каля 40 тысяч чырвонаармейцаў і з дзесятак буйных шпіталяў, пад якія былі заняты будынкі ўсіх гімназій, вучэльняў і нават Сялянскага зямельнага банка. Пры гэтым, напэўна, не абышлося без дапамогі Анатоля Луначарскага, з якім мастак быў знаёмы яшчэ з 1914 года па Парыжы і які прапаноўваў яму працу ў сваім наркамаце. Ды і ў кіраўніцтве секцыяй выяўленчага мастацтва ў Шагала было нямала добрых знаёмых, да якіх ён пазней неаднаразова звяртаўся па дапамогу. Гэтым ён і ягоная навучальная ўстанова з самага пачатку раззлавалі віцебскае кіраўніцтва.

Як бы там ні было, але з памяшканнем мастацкай школе, што, пачынаючы з 1921 года называла сябе Мастацка-практычным інстытутам, пашанцавала, чаго нельга было сказаць пра іншыя навучальныя ўстановы Віцебска, што адкрыліся амаль адначасова, — сельскагаспадарчы тэхнікум і кансерваторыю. Дарэчы, у апошняй з шагалаўскай мастацкай школай было шмат агульнага: іх стварылі мясцовыя энтузіясты, тон задавалі заезджыя знакамітасці, спецыялісты з сусветнымі імёнамі. Абедзве навучальныя ўстановы былі добра вядомыя ва ўсёй Расіі. Аднолькава склаліся лёсы інстытута і кансерваторыі пасля ад'езду знакамітасцяў: яны былі рэарганізаваны ў сярэднія навучальныя ўстановы і зрабіліся шараговымі правінцыйнымі тэхнікумамі. Розніца была толькі адна: калі школа Шагала з першых дзён свайго існавання мела добрае памяшканне, дык кансерваторыя месцілася спачатку ў некалькіх пакоях былой духоўнай семінарыі, потым у будынку Марыінскай гімназіі, адкуль яе неўзабаве "папрасілі" дзеля адкрыцця тут чарговага шпіталя.

Да мастацкай школы гарадское і губернскае кіраўніцтва заўсёды ставілася больш чым халаднавата. Звязана гэта было перадусім з незалежнай пазіцыяй Шагала і ягонымі сувязямі ў Маскве, да якіх мастак часцяком звяртаўся, калі трэба было вырашыць якое-небудзь гаспадарчае пытанне. "Я вылузваўся са скуры, каб дастаць неабходныя школе сродкі, фарбы, матэрыялы... Трэба было хадзіць у губвыканкам — хадайнічаць пра крэдыт. Аднойчы, калі я дакладваў пра свае патрэбы, старшыня Савета заснуў. Прачнуўся ён толькі пасля таго, як я скончыў, — прыгадваў Шагал. —... Кожны раз, калі я атрымліваў субсыдыі, звяртаючыся па дапамогу да Луначарскага, кіраўніцтва патрабавала, каб я падпарадкоўваўся толькі яму, інакш мне пагражалі турмой".

Негатыўнае стаўленне да мастацкай школы склалася яшчэ і з прычыны прыхільнасці большасці выкладчыкаў і нават навучэнцаў да малазразумелых для недасведчаных людзей у мастацтве, "рассаднікам" якіх з'яўлялася гэта школа. У гэтым сэнсе не вельмі адукаванаму віцебскаму кіраўніцтву таго часу значна больш блізкай і зразумелай была кансерваторыя. Яна мела, так бы мовіць, і "ўжытковае значэнне": яе сімфанічны аркестр быў пастаянным удзельнікам усіх рэвалюцыйных святаў і пасяджэнняў, падчас якіх выконваліся "пралетарскія" песні. Так ужо атрымалася ў жыцці: у кіраўніцтва кансерваторыя была любімай дачкою, а мастацкая школа — падчаркаю.

Да таго часу, пакуль на чале навучальнай установы стаяў Шагал, яе не наважваліся крануць. Удавалася "трымацца на плаву" і ў часы кіравання Веры Ермалаевай. А вось пасля ад'езду з Віцебска яе і Казіміра Малевіча становішча рэзка змянілася. Іван Гаўрыс, які ўзначаліў інстытут з 15 чэрвеня 1922 года, быў не ў стане штосьці супрацьпаставіць бядзе, што няўмольна насоўвалася на школу. Нядаўні выпускнік гэтай навучальнай установы, адносна малады яшчэ чалавек, без сувязяў у "вярхах", ён, відавочна, быў да таго ж і кепскім адміністратарам. А сярод непрыхаванай нядобразычлівасці ён проста збянтэжыўся.

Увосень 1922 года ў сувязі з ад'ездам часткі кіраўнікоў становішча Віцебскага мастацка-практычнага інстытута стала катастрафічным. Не было сродкаў ні на запрашэнне новых кіраўнікоў, ні на рамонт будынка. І губернскія ўлады настойліва прапанавалі саступіць частку памяшканняў інстытута музычнаму тэхнікуму, за што абяцалі яго адрамантаваць і цалкам узяць на сябе ацяпленне і асвятленне ўсяго будынка, уключаючы памяшканні тэхнікума. Інстытут вымушаны быў пайсці на такія ўмовы. Давялося скараціць майстэрні, музей і саступіць першы паверх тэхнікуму. Губернскі камітэт прафесійнай адукацыі адрамантаваў першы паверх для музычнага тэхнікума, засяліў яго, а потым, насуперак абяцанням, ухіліўся ад рамонту другога паверха, што быў прызначаны для інстытута. Пра гэта рэктар навучальнай установы Гаўрыс пісаў у Галоўпрафасвету.

Далей падзеі развіваліся, як ў добра вядомай казцы пра лісу і зайца, які пабудаваў дамок. Паставіўшы адну нагу ў доме на Бухарынскай вуліцы, музычны тэхнікум захацеў паставіць і другую. У гэтым яго актыўна падтрымлівалі губпрафасвета і губана, за якімі стаялі гарадскія і губернскія ўлады. Але для гэтага было неабходна наогул прагнаць інстытут з памяшкання. Прычым дзейнічалі па-бальшавіцку хутка і рашуча. Для пачатку ў студзені 1923 года паводле задання губернскай РСІ (рабоча-сялянскай інспекцыі) у абедзвюх навучальных установах былі наладжаны рэвізіі. Не паглыбляючыся ў падрабязны аналіз выніковых дакументаў (гэта тэма для асобнай публікацыі),

№ 27—28 12 — 25 ліпеня 1997 г.

PLEINAIR



Удзельнік Шагалаўскіх чытанняў Крыстоф Гольдман з Германіі дорыць адну з работ Шагала Віцебску.



Фрагменты экспазіцыі Дома-музея Марка Шагала.



Дом-музей Марка Шагала па вуліцы Пакроўскай у Віцебску.






# "Я ЗАЎСЁДЫ ПАМЯТАЮ ПРА ВІЦЕБСК І ВЕЛЬМІ ЛЮБЛЮ ЯГО..."

Не памылюся, калі скажу, што адкрыццё Дома-музея Марка Шагала 6 ліпеня, у дзень нараджэння Маэстра, стала цэнтральнай падзеяй шагалаўскага свята ў горадзе на Дзвіне. Уся гэтая імпрэза адбывалася на невялікай маляўнічай вуліцы Пакроўскай, дзе прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады мастака. Памятаеце ягоную карціну "Стары горад"? Так, тую самую, дзе Шагал адлюстраваў Пакроўскую царкву. З пакоя, які "напаўняўся яркай блакітнасцю, што падае праз акно", юны Шагал назіраў за тым, што адбывалася на ягонай вуліцы. Глядзеў на святло, якое "ішло здалёк, з пагорка, дзе знаходзілася царква. Я любіў маляваць на сваіх карцінах і гэтую царкву, і маленькі ўзгорак" (М.Шагал).

Адсюль 19-гадовы "ружовы ды кучаравы" Марк разам з сябрам Авікдорам Меклерам паехаў у Пецярбург, каб заваяваць сталіцу...

... На сонечнай Пакроўскай сабраліся святочна апранутыя людзі. Шмат людзей. Віцябчане, госці з блізкага і далёкага замежжа, "героі" шагалаўскіх твораў у мястэчковых строях тых далёкіх гадоў. Паўсюль музыка, песні, танцы. Атракцыёны. Кірмашы. Тут жа гаманлівыя гандлёвыя рады і шыльды "таго часу": "Питейный домъ", "Портной 2-й этажъ", "Парикмахерская З. Шагалъ", "Лавка", хлапчукі на конях, цікаўныя жывыя козы. І паўсюль — кветкі, асабліва валошкі, — на сценах дамоў і на платах, у вокнах і на зямлі, у вазах... Зіхацяць, пераліваюцца ў сонечных промнях вобразы шагалаўскіх карцін, перанесеныя на вулічныя транспаранты...

Перад адкрыццём музея да помніка вялікаму земляку былі ўскладзены кветкі.

Дзесяць гадзін раніцы... Дом-музей у напружаным чаканні першых наведнікаў... Ва ўступнай прамове мэр горада спадар Уладзімір Пелагейка, адзначыўшы надзвычай важнае значэнне творчасці Марка Шагала для сусветнай культуры, падкрэсліў, што сёння па ўсёй зямлі словы "Шагал" і "Віцебск" гучаць як сінонімы, як адно непарыўнае цэлае. Менавіта адсюль, з Віцебска, Марк Захаравіч панёс чалавецтву славу роднага горада... Толькі сапраўды геніяльныя людзі, працягваў прамоўца, маюць такое ўсенароднае прызнанне і любоў. Цяжкім было вяртанне Майстра на радзіму. Але да свайго юбілею ён ўсё-такі вярнуўся дадому, каб застацца тут назаўжды.

Мэр сардэчна падзякаваў усім, хто непасрэдна ўдзельнічаў у стварэнні Дома-музея, хто маральна і матэрыяльна падтрымаў рэалізацыю гэтага складанага праекта.

Кіраўнік праграмы "Кола спрыяння Дому-музею Марка Шагала ў Віцебску" пан Крыстоф Гольдман з Германіі падарыў музею тры шагалаўскія літаграфіі, "Медаль Міру", які мастак атрымаў за чатыры гады да сваёй смерці ад Інстытута прасоўвання негвалтоўнай палітыкі (аб'яднанне Альберта Швейцэра), а таксама празаічны верш "Да майго горада", напісаны М.Шагалам у Нью-Йорку зімою 1944 года. У ім ёсць такія радкі: "Я шчаслівы і ганаруся табой, тваім гераізмам, які ты паказаў і паказваеш найстрашэннаму ворагу на свеце, ганаруся тваімі людзьмі, іхняй творчасцю і вялікім сэнсам жыцця, што ты пабудаваў. Ты гэта даеш не толькі мне, але і ўсяму свету... Лепшае, што я магу табе пажадаць, — каб ты сказаў, што я быў і застаўся верным табе..."

...Я стаяў у натоўпе, з цікавасцю назіраючы, як радаваліся людзі, якія яны былі сёння шчаслівыя. Як яны апладзіравалі падчас акцыі перадачы музею сімвалічных ключоў. Шукаю вачыма Бэлу Меер, унучку мастака. Учора яна прыляцела ў Віцебск з ЗША на радзіму свайго дзеда, каб узяць удзел у вернісажы ягонай выставы твораў з калекцыі Шагалаўскага музея ў французскім горадзе Ніцы і з Фонду Іды Шагал. І ўчора ж яна дала прэс-канферэнцыю. Што яе больш за ўсё ўразіла ў Віцебску? Сардэчныя людзі. Уся духоўная аўра горада. І, безумоўна ж, валошкі, якія яе дзед згадваў нават у свой апошні дзень, 28 сакавіка 1985 года.

Я проста не ведаў, што пані Бэла Меер, яшчэ ўчора, з хваляваннем агледзеўшы Дом-музей, паляцела дадому...

... Маленечкія шэсць пакояў музея, пра якія мы ўжо пісалі раней, цёпла прынялі першых ганаровых наведнікаў, якія ішлі па чарзе невялікімі групамі па запрашальных білетах... Адразу ўсіх жадаючых гэты своеасаблівы Храм, натуральна, умясціць не мог! Кажуць, людзі ішлі сюды да позняга вечара...

Развітваючыся з Пакроўскай вуліцай, я доўга стаяў ля мемарыяльнай дошкі — палітры з двума пэндзлямі, усталяванай на Доме-музеі: "Тут жыў мастак Марк Шагал", і разважаў... Прыгадаліся словы Марка Захаравіча, сказаныя ім у Маскве ў чэрвені 73-га: "Я б хацеў... перадаць сардэчнае прывітанне, маю любоў і самыя добрыя пажаданні Віцебску і маім землякам. Я вырашыў адмовіцца ад паездкі ў Віцебск толькі таму, што, як кажуць, моцнае эмацыйнае хваляванне шкоднае для людзей майго ўзросту. Але ўсё роўна я заўсёды памятаю пра Віцебск і вельмі люблю яго: у мяне няма ніводнай карціны, дзе б вы не ўбачылі фрагментаў маёй Пакроўскай вуліцы. Гэта, мабыць, і недахоп, але зусім не з майго пункту гледжання".

Марк Захаравіч меў рацыю: ён усё ж вярнуўся ў родны горад, і вярнуўся ўжо — назаўжды...

**Б.К.**

# БЫЛО...



Аздабленне будынка да канферэнцыі супраць беспрацоўя, выкананае групай УНОВИС. (Віцебск, 1920).

адзначу яўную і непрыхаваную суб'ектыўнасць у стаўленні да інстытута з боку правяраючага, старшага інспектара Маке. Здзіўляе, што ў дзейнасці мастацкай школы, што працягвалася чатыры гады, ён не знайшоў ніводнай станоўчай рысачкі. Больш за тое, аказваецца, інстытут "мае за сабой выключна адмоўныя бакі, што праяўляюцца ў тым, што ён зрабіў шкоду Рэспубліцы сваім існаваннем" (!). У гэты ж час у дзейнасці музычнага тэхнікума ўсё выдатна, няма ніводнага недахопу. Адсюль у правяраючага выснова: інстытут трэба закрыць і ператварыць яго ў... школу першай ступені (аналаг сучасных першых трох класаў агульнаадукацыйнай школы).

Пасля атрымання такога "абгрунтавання" рукі ў магільшчыкаў інстытута былі развязаны. У ліпені губана прымае рашэнне: рэарганізаваць у бліжэйшай будучыні навучальную ўстанову ў тэхнікум і... перасяліць яго ў двухтыднёвы тэрмін у памяшканне сінагогі.

Гаротны Іван Гаўрыс спрабаваў змагацца, але сілы былі занадта няроўныя. У яго не было сувязяў у Маскве, як у Шагала. Дый сярод выкладчыкаў ужо не засталося дастаткова аўтарытэтных у горадзе людзей. Састарэлы Юрый Пэн, да меркаванняў якога некалі прыслухоўваліся губернатары, на маладое савецкае чынавенства ўражання не рабіў.

На пачатку жніўня 1923 года Мастацка-практычны інстытут быў рэарганізаваны ў тэхнікум. Праўда, І.Гаўрыс усё цягнуў з пераездам. Але ягоны лёс ужо практычна быў вырашаны. На дырэктарскую пасаду знайшлі іншага чалавека, больш паслухмянага, які без пярэчанняў быў гатовы перавезці навучальную ўстанову ў непрыстасаванае памяшканне былой сінагогі на вуліцы Валадарскага (цяпер Суворава). Такім чалавекам аказаўся скульптар Міхаіл Керзін, які да гэтага ўзначальваў мастацкую школу ў Веліжы. Ён заступіў на пасаду 5 верасня 1923 года, а праз дзевяць дзён тэхнікум апынуўся ўжо ў новым будынку. Разам з Керзіным з Веліжа прыехалі і іншыя выкладчыкі (Валянцін Волкаў, Міхаіл Эндэ, Марыя Лебедзева), якія, паводле словаў мастацтвазнаўцы Леаніда Дробава, былі "высокакваліфікаванымі мастакамі-рэалістамі". Выкладчыкі-ветэраны Іегуда Пэн, Саламон Юдовін і Яфім Мінін шчыра заявілі Керзіну аб тым, што ён здрадзіў інтарэсам тэхнікума. Менш чым праз два тыдні ў губпрафасвету ад іх паступіла заява: "Група выкладчыкаў былога Мастацка-практычнага інстытута, цяпер мастацкага тэхнікума, у вышэйазначаным складзе заяўляе:

1. Наноў прызначаны загадчык тэхнікума т.Керзін у правядзенні ўсёй працы, што мае непасрэднае дачыненне да вучэбнай часткі, не мае намеру лічыцца з рашэннямі і нават меркаваннем педагагічнага савета.

2. План работы, праграма і метадалагічныя пытанні ва ўсіх выпадках вырашаюцца аднаасобна загадчыкам, нягледзячы на патрабаванні педагагічнага савета аб вынясенні на гэты прадмет асобых рашэнняў.

3. Што новы загадчык не мае намеру лічыцца з усімі сучаснымі дасягненнямі ў галіне мастацтва, як з фармальна-тэхнічнага боку, так і з боку метадалагічнага.

Прымаючы да ўвагі ўсе адмоўныя бакі аднаасобнага вырашэння пытанняў у справе мастацкай адукацыі, а таксама навязванне загадчыкам асабістых поглядаў у галіне фармальнага і ідэалагічнага вырашэння задач мастацтва, лічым немагчымым далейшае знаходжанне ў мастацкім тэхнікуме ў якасці кіраўнікоў і заяўляем аб сваім зыходзе".

У Керзіна на гэта даўно ўжо быў падрыхтаваны адказ.

"Мною ўжо неаднаразова выказвалася, што яны (гэта значыць Пэн, Юдовін і Мінін) з'яўляюцца цалкам непатрэбнымі і ніякай карысці справе прынесці не могуць. Грамадзяне Мінін і Юдовін — як зусім не маючыя спецыяльнага адукацыйнага цэнзу, а грамадзянін Пэн як цалкам састарэлы па сваіх метадах выкладання".

Чытаючы цяпер, праз 70 гадоў, гэтыя радкі, здзіўляешся не толькі яўнай хлусні (і Мінін, і Юдовін мелі спецыяльную мастацкую адукацыю), але і разняволенасці тону і безапеляцыйнасці новага дырэктара. "Састарэлы" Пэн змагаўся за "сучасныя дасягненні ў галіне мастацтва", "сучасны" Керзін іх цалкам адмаўляў. Аднак яму абсалютна не было чаго палохацца: ён рабіў тое, чаго ад яго чакалі. Ва ўсёй гэтай гісторыі незразумелым застаецца адно: хто канкрэтна быў натхняльнікам і арганізатарам канчатковага развалу вядомай сёння ва ўсім свеце мастацкай школы? Хто стаяў за шараговымі выканаўцамі?

М.Керзін усё сваё доўгае жыццё з непрыхаванай нянавісцю ставіўся да ўсяго, што было звязана з Віцебскай мастацкай школай 1918—1923 гадоў. Паводле сведчанняў відавочцаў, нават незадоўга да смерці пры згадванні імёнаў Шагала, Малевіча, Лісіцкага, Ермалаевай, не кажучы ўжо пра Пэна, Юдовіна і Мініна, ён не мог устрымацца ад непрыхаванай злосці...

Віцебскі мастацкі тэхнікум, як і трэба было чакаць, у будынку былой сінагогі прабыў зусім нядоўга. У гэтым халодным памяшканні не было ніякіх умоваў для арганізацыі навучальнага працэсу. Таму неўзабаве тэхнікуму перадалі іншае памяшканне — на рагу вуліц Біржавой і Валадарскага (цяпер Маякоўскага і Суворава), дзе ён месціўся да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Сам жа Керзін у 1932 годзе паехаў з Віцебска ў Мінск...

**Аркадзь ПАДЛІПСКІ**
*Віцебск*

№ 27—28 12 — 25 ліпеня 1997 г.

TEMPUS FUGIT

# ГІСТОРЫЯ МАЁНТКА "МІЛАЕ"

Калі зоркі пачынаюць мільгацець у нябёсах, тады ўзнікае таямнічы сілуэт старадаўняга будынка, які ў цемры здаецца добраўпарадкаваным і дагледжаным. Раз-пораз у цішыні гучаць крокі па бітай цэгле. Калі б гэта пачуў містык, ён бы, без сумнення, падумаў, што гэта блукае былы гаспадар дома, пакрыўджаны на мясцовы люд. Гаворка пра тое, што на месцы яго пахавання (1883 г.) стаяў адзіны для ўсёй сям'і — дзвюх жонак, дачкі, сына і самога гаспадара — сціплы помнік. На мураванай пліце была ўстаноўлена гранітная урна з надпісам на французскай мове: "Ты смяротны, дык паважай магілы пахаваных".

Але ж праз шмат гадоў, у 40-х ці 50-х гадах XX стагоддзя, здарылася непапраўнае. Былі знесены пліты і помнік, зруйнавана магіла чалавека, які шмат зрабіў для лепшага жыцця мясцовых сялян.

... Вакол прыгожага двухпавярховага панскага дома было шмат сучасных для таго часу гаспадарчых збудаванняў. Рукамі сялян непадалёку ад маёнтка была ўзведзена цагельня. З выробленай у ёй цэглы і былі пабудаваны сядзіба незвычайнага гаспадара і іншыя мураванкі: свіран вышынёй у некалькі паверхаў, млын — першы ў павеце па магутнасці. Абсталяванне для яго было прывезена панам з Германіі. У млыне выраблялася самая разнастайная прадукцыя. Ён даваў электраэнергію, бо гаспадар цікавіўся вопытамі па стварэнні і карысным прымяненні электрычнасці. Тут ткалі сукно, часалі воўну, малолі зерне. Хлявы мелі высокі падмурак і светлыя вокны. Побач з маёнткам быў склеп-лядоўня. Усе будынкі вылучала грунтоўнасць і навізна праектаў. Так, у жылым будынку пана ў пачатку XIX стагоддзя ўжо быў вадаправод. А насупраць прыгожага дома з мезанінам — на дзіва мясцоваму і прыезджаму люду — срэбныя струмені фантана, непадалёку — сажалка з лебедзямі. У канюшнях — лепшых парод рысакі. Вакол сядзібы — чароўная ліпавая алея.

Клапаціўся гаспадар маёнтка і пра сялянскае жытло. Ён прапанаваў будаваць замест "чорных" хацін — "белыя", з печамі з комінамі.

Дык хто ж гэты таленавіты гаспадар, чыя неўтаймоўная фантазія і наватарства так упрыгожылі віцебскі прыгарад на пачатку XIX стагоддзя?

Публіцыст, мемуарыст, аўтар паэмы "Энеіда навыварат", удзельнік Айчыннай вайны 1812 года, віцэ-губернатар Віцебска з 1813 па 1817 гады — Ігнат Антонавіч Манькоўскі.

... Сын дробнага збяднелага віцебскага памешчыка, Ігнат Манькоўскі з-за цяжкага матэрыяльнага становішча вымушаны быў пайсці на дзяржаўную службу. Вынікі кар'еры былі ўражлівыя: у 90-х гадах XVIII ст. ён ужо старшыня дэпартамента ў Магілёўскім губернскім магістраце. У той час ён закахаўся ў дачку мясцовага вяльможы, былога каралеўскага камергера. Манькоўскі, калежскі асэсар, адчуўшы антыпатыю, праявіў усю сваю прыродную кемлівасць і абаянне і здолеў заваяваць прыхільнасць дзяўчыны і яе бацькоў, чым шчасліва змяніў свой далейшы лёс.

У сакавіку 1797 года Манькоўскі па імператарскім загадзе атрымаў чын надворнага саветніка і пасаду ў губерні. У выніку ён стаў уладальнікам казённага маёнтка Буева з некалькімі вёскамі. Пазней на свае грошы набыў вёску Мазалава, за 10 км ад Віцебска. Па свайму праекту пабудаваў палац, які меў таўшчыню сцен амаль што у метр. Каб на вякі. Сваю сядзібу Манькоўскі назваў паэтычна і трапна — "Мілае".

З 1801 года Манькоўскі — віцебскі губернскі пракурор.

Далей была вайна з Напалеонам. Манькоўскі самастойна арганізуе вываз губернскай дакументацыі і маёмасці ў Вялікія Лукі.

"15 ліпеня 1812 года, атрымаўшы дазвол выехаць, у пачатку апошняй пад Віцебскам баталіі, калі навокал усё дымілася і пламянела, калі вочы мае на працягу трох дзён стаміліся глядзець на жахі вайны, закураны парахавым дымам і ледзь жывы ад яго, аглушаны стрэламі і запырсканы крывёю раненых, якіх прыносілі да маёй кватэры і якім я стараўся дапамагаць, я пакінуў Віцебск..." — распавядаў ва ўспамінах Ігнат Антонавіч.



Усе каштоўнасці сям'і Манькоўскага засталіся ў маёнтку і трапілі ў рукі французаў. Калі ўладальнік маёнтка вярнуўся пасля адступлення ворага дадому, яго сустрэлі голыя сцены. Але гэты факт быў ацэнены дзяржавай: у 1813г. стацкі саветнік Ігнат Манькоўскі назначаецца віцэ-губернатарам Віцебска. Праз чатыры гады ён выходзіць у адстаўку.

Але ж і пасля гэтага Манькоўскі працягвае весці актыўны лад жыцця і займаецца любімай справай. За тры гады да смерці, у студзені 1830 года, ён узяў удзел у конкурсе, які прапанавала імператарскае Вольнае эканамічнае таварыства ў Пецярбургу. Яно чакала ад удзельнікаў рашэння наступнай праблемы: як пры найменшых затратах палепшыць сялянскія пабудовы ў паўночнай і сярэдняй паласе Расіі. За найлепшы праект таварыства абяцала залаты медаль і 50 чырвонцаў. Састарэлы гаспадар маёнтка "Мілае" стаў пераможцам конкурсу. Праўда, з грашыма выйшла недарэчнасць: выплацілі толькі 30 чырвонцаў, бо яго праца была напісана на змешанай беларуска-рускай мове.

"Я шчаслівы, калі магу яшчэ быць карысным сваёй бацькаўшчыне, маім сабратам-расіянам", — такімі словамі закончыў Манькоўскі свой конкурсны праект. Пад такім дэвізам прайшло ўсё жыццё гэтага неардынарнага чалавека.

Пасля кастрычніцкіх падзей 1917г. маёнтак быў нацыяналізаваны. Былыя батракі і беззямельныя сяляне стварылі ў ім камуну, якая хутка распалася. У пачатку 1918 г. тут адкрылася пачатковая школа. На базе яе і Новаіерусалімскага народнага вучылішча ў "панскім доме" была арганізавана школа першай ступені. Першым яе загадчыкам стаў Мікалай Дзмітрыевіч Дзьяканаў. (Калісьці ў дзяцінстве ён бачыў у родным доме знакамітага мастака Іллю Рэпіна, які цесна сябраваў з яго бацькам, святаром Слабадской царквы.)

У той час для Мазалаўскай школы з дапамогай аддзела народнай асветы павета, саўгаса, саміх сялян была набыта багатая бібліятэка былога ўладальніка маёнтка. Таксама тут жа знаходзілася унікальная калекцыя розных карцін, партрэтаў праслаўленых людзей Расійскай дзяржавы. А якія тут былі прыгожыя вырабы са шкла, металу, фарфору, мармуру, дрэва, керамікі! Гэты антыкварыят па афіцыйным пісьмовым загадзе перыядычна вывозіўся ў Віцебск на мастацкія выставы. На жаль, у сярэдзіне 20-х гадоў па невядомых прычынах калекцыя з Мазалава знікла назаўсёды...

Калі школа пераехала ў новы будынак у канцы 70-х, двухпавярховы дом заняў інтэрнат для меліяратараў Мазалаўскага ПМК-29.

У 1994 г. з'явілася ідэя адкрыць школу мастацтваў. Але да сённяшняга дня дом стаіць безгаспадарным, не патрэбным ні Віцебскаму аддзелу культуры, ні калгасу, ні былому ПМК-29. Ён стаў прытулкам аматараў "пленэру" ў абдымку з бутэлькай "вогненнай вады"...

**Эла ДРУЖКОВА**
*Віцебск*

*На здымку:*
*маёнтак "Мілае".*

# "ЗАЛАТЫ ВЕК" ПРАВІНЦЫІ

Кастрычніцкая рэвалюцыя, а пазней грамадзянская вайна практычна прайшлі, не закрануўшы Віцебск. У горад прыходзілі эшалоны з параненымі чырвонаармейцамі, іх жа адпраўлялі пасля выздараўлення на фронт з Віцебскага вакзала. Горад быў адносна забяспечаны палівам, дровамі і хлебам. Таму з халоднай Масквы і галоднага Петраграда ў Віцебск пацягнулася творчая інтэлігенцыя.

Вось як апісвае Віцебск 20-х гадоў Сяргей Эйзенштэйн, які некалькі дзён назіраў жыццё віцебскіх вуліц, у якіх, нібыта ў люстэрку, адбіваліся падзеі першых паслярэвалюцыйных гадоў.

"Дзіўны правінцыйны горад. Як многія гарады Заходняга краю — з чырвонай цэглы. Бруднай і панылай. Але гэты горад асабліва дзіўны. Тут галоўныя вуліцы пакрыты белай фарбай па чырвоных цаглінах. А па белым фоне разбегліся зялёныя кругі. Аранжавыя квадраты. Сінія прастакутнікі. Па мураваных сценах прайшоўся пэндзаль Малевіча. "Плошчы — нашы палітры" — гучыць з гэтых сцен".

Вялікай папулярнасцю ў віцябчан карысталіся "Вокны сатыры" — плакаты, створаныя мясцовымі мастакамі ВіцОСТА. Асабліва весялілі народ "ударныя" тэксты на мясцовыя тэмы і сюжэты, напісаныя паэтам-сатырыкам Міхаілам Пустыніным. З-за недахопу сродкаў, паперы, фарбаў у губернскай друкарні не ўсе задумы былі ўвасоблены. Акрамя гэтага, большасць сялян і чырвонаармейцаў былі непісьменныя, таму тэкст плакатаў ім быў незразумелы. І тады ўзнікла геніяльная ідэя — стварыць "вусную газету". Яна належыць Пустыніну, які назіраў за натоўпамі людзей ля плакатаў і вырашыў перакласці ўсё на мову тэатра.

Такім чынам, менавіта ў Віцебску нарадзіўся першы ў Савецкай Расіі тэатр рэвалюцыйнай сатыры — Тэрэўсат. Бацькамі яго былі М.Пустынін і А.Сумарокаў, які згадваў: "Гледачы ламіліся ў тэатры і на канцэрты... Увесь рэпертуар мы будавалі так, што п'ескі ўяўлялі сабою інсцэніраваныя плакаты, што не былі надрукаваны з-за адсутнасці тэхнічных сродкаў".

Першае выступленне тэатра адбылося на прывакзальнай плошчы перад чырвонаармейцамі, якія адпраўляліся на фронт, у траўні 1919 года. Мастацкім кіраўніком тэатра стаў петраградскі акцёр і рэжысёр М.Разумны. Малады тэатр размесціўся ў пустым будынку прыватнага кінатэатра "Рэкорд" (цяпер кінатэатр "Спартак"). Спектаклі былі бясплатныя. Акцёры не атрымлівалі грошай, а жылі на тую аплату натурай, што ахвотна давалі салдаты і "камбеды". Аплата гэтая складалася з селядцоў, пшана, мукі, бульбы ды масла".

Маскоўскі крытык ў 1920 г. ў "Правде" пісаў пра віцебскі тэатр: "Тэрэўсат — гэта тэатр надзвычайных, рашучых людзей. Наважыцца іграць на пляцоўцы трамвайнага вагона, пад пякучым ліпеньскім сонцам, з перасохлымі ад спякоты губамі, перасоўваючыся з плошчы на плошчу, пачынаючы з чатырох гадзін дня да позняга вечара — гэта подзвіг!"

Тады ж віцебскіх акцёраў запрасілі на гастролі ў Маскву. Прадстаўленні прайшлі на сцэне Тэатра драмы і камедыі. Быў нечуваны поспех, і Массавет выдаў загад аб стварэнні такога ж тэатра ў сталіцы. Многія віцебскія акцёры былі ангажаваны ў Маскоўскі Тэрэўсат. Сёння гэта тэатр імя У.Маякоўскага. А Віцебскі Тэрэўсат паступова развaліўся, аддаўшы лепшыя акцёрскія сілы ў Маскву.

Культурнае жыццё Віцебска не стаяла на месцы. У сакавіку 1920 г. у Латышскім клубе публічна выступіў Дзяржаўны хор Віцебска. У кансерваторыі чытаў лекцыі па этыцы і філасофіі музыкі малады пецярбуржац Л.Пумпянскі — філосаф, лінгвіст, эрудыт, які дасканала валодаў дваццаццю мовамі. Побач з ягоным імем заўсёды згадваецца імя паліглота — 17-гадовага юнака Івана Салярцінскага (цяпер ягоным імем названа музычная вучэльня).

У тыя цяжкія, бурлівыя і шчаслівыя гады горад наведвалі надзвычайныя асобы: пісьменнік Аляксей Талстой, які прысвяціў гораду свае радкі ў 1924 годзе, амерыканская танцоўшчыца, жонка паэта Сяргея Ясеніна Айседора Дункан, якая давала канцэрты на адкрытай пляцоўцы ў парку імя Леніна. На адкрыццё Дзяржаўнага драматычнага тэатра прыязджалі Янка Купала і Якуб Колас. На сцэне першага гарадскога тэатра (плошча Леніна) пафасна чытаў свае вершы Уладзімір Маякоўскі ў 1927 годзе, а пазней даваў канцэрты скрыпач Давід Ойстрах.

Можна было б доўга пералічваць падзеі культурнага жыцця Віцебска 20-х гадоў. Лягчэй падвесці вынікі. Акрамя вышэйпералічаных, у Віцебску тады дзейнічалі пяць музычных школ, узорны губернскі юнацкі тэатр, II Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр, што пачаў працаваць у 1926 годзе (цяпер Дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я.Коласа), літаратурнае аб'яднанне "Маладняк", таварыства краязнаўцаў. Выдаваліся два часопісы — "Мастацтва" і краязнаўчы зборнік "Віцебшчына". Так, сапраўды, гэта быў "залаты век" Віцебска...

**Эла ДРУЖКОВА**
*Віцебск*

---

Амаль з дзесяцігадовага тэрміну існавання Віцебскага мастацкага тэхнікума добрая яго палова ўяўляе сабой складаны кангламерат гістарычных фактаў і домыслаў. Архівы не захавалі дакументаў аб дзейнасці гэтай навучальнай установы ўжо з 1933 года. А пільныя погляды даследчыкаў Віцебскай мастацкай школы былі ў асноўным скіраваны на найбольш адметныя і яркія перыяды яе развіцця, замыкаліся часцей на асобах сусветнавядомых майстроў, якія працавалі ў Віцебску. Але так ці інакш, актыўнае мастацкае жыццё і традыцыі Народнай мастацкай школы працягвалі развівацца і пасля ад'езду з горада шэрага славутых творцаў. Безумоўна, дзейнасць мастакоў-педагогаў наступнага пакалення была напоўнена іншым сэнсам, грунтавалася на зусім іншых мастацкіх прынцыпах. Але, як і папярэднікі, новае пакаленне настаўнікаў і іх вучняў натхнялася ідэямі і вобразамі свайго часу і бязмежна, самаахдана верыла ва ўсемагутную ролю і сілу мастацтва.

Наша звычайная абыякавасць да падзей недалёкай гісторыі, гістарычная недальнабачнасць пачынаюць пакрысе набываць амаль ракавыя наступствы. Побач з намі ўсё менш застаецца відавочцаў, тых людзей, хто мог бы нам паведаць аб развіцці мастацкай адукацыі ў Віцебску ў апошняе перадваеннае дзесяцігоддзе. Сёння мы можам толькі з вялікай доляй умоўнасці меркаваць пра асобыя падзеі ў жыцці тэхнікума ў 30-я гады, недаравальна мала ведаем пра лёсы асобных яго выкладчыкаў і вучняў. Часам нязначныя факты з успамінаў былых навучэнцаў мастацкага тэхнікума становяцца асабліва каштоўнымі для ўсведамлення агульнай атмасферы жыцця таго часу.

Мікалай Чураба і Генрых Бржазоўскі. У мінулым аднакурснікі, навучэнцы Віцебскага мастацкага тэхнікума (1930 — 1933), абодва старасты, адпаведна педагагічнага і жывапіснага аддзяленняў. Нягледзячы на свой "сівы" ўзрост, сёння яны жывыя і, дзякуй Богу, творча актыўныя. З асаблівай цеплынёй успамінаюць мастакі свае юнацкія гады, праведзеныя ў Віцебску, і з гонарам заяўляюць: " Мне пашчасціла вучыцца ў дзяржаўным мастацкім..."

З тых гадоў па мерках чалавечага жыцця прайшло нямала часу. Многія даты, факты, прозвішчы, дэталі, падзеі, безумоўна, сцёрліся ў памяці. І таму не выпадкова асобныя пытанні ставілі ў тупік маіх суразмоўцаў.

**Мікалай Чураба:** "Як бы мне хацелася апраўдаць вашы спадзяванні, але, на вялікі жаль, павінен вас расчараваць. Вы пераацэньваеце маю памяць, мой тагачасны дзіцячы розум. Ці мог я даць ацэнку ў вашым паняцці, якім быў тэхнікум у час майго паступлення? Ці параўнаць метад выкладання розных настаўнікаў?"

Пагаджаючыся з мастаком, я з кожнай наступнай фразай яго апавядання ўсё больш разумеў, што памяць, аднак, захавала галоўнае — успаміны аб людзях, настаўніках і сябрах, шчырыя юнацкія пачуцці і ўражанні. У гэтым я пераканаўся і ў час гутарак з Генрыхам Бржазоўскім.

**Генрых Бржазоўскі:** "Я прыйшоў у тэхнікум з завода, дзе да гэтага адпрацаваў пяць гадоў. Адукацыя ў мяне была ўсяго чатыры класы. Да паступлення я з захапленнем пісаў нацюрморты, пейзажы. Але вельмі хацелася навучыцца ра-

# МАСТАЦКІ ТЭХНІКУМ, ГОД 1933...

біць гэта больш прафесійна. У 1930 годзе наш набор у тэхнікум быў першым, разлічаным на трохгадовы тэрмін навучання (да гэтага вучыліся чатыры гады). Падчас паступлення мы трымалі экзамен, які прымаў у нас, здаецца, Руцай. Ён і потым каля года працаваў з намі, вёў жывапіс і малюнак."

**Мікалай Чураба:** "У адрозненне ад Генрыха, які вучыўся на жывапісным аддзяленні, я паступіў на педагагічнае. Адразу ж, у верасні, усе навучэнцы былі накіраваны у калгас дапамагаць збіраць ураджай. Там я, гарадскі хлопец, навучыўся каня запрагаць, браць лён, жаць жыта. Амаль праз месяц прыйшоў да нас загад дырэктара: "Хто можа застацца, няхай падсобіць яшчэ". Мы былі здаровыя, маладыя, працавалі, як валы, — за дваіх. У параўнанні з горадам нам там жылося нядрэнна. Хутка частка студэнтаў з'ехала, і тыя прадукты, што мы атрымлівалі на 25 чалавек,

M.Чураба

мы працягвалі атрымліваць на 15. Елі за дваіх, малако пілі замест вады. Жыццё нам здавалася амаль раем. Але прыйшоў час ад'язджаць. "Бывай, калгас, цяністы лес і поле! Не давядзецца нам ужо сустракацца боле". І вось развітальны сняданак на стале. Разварыстая бульба, смятана ў місках... Дзяжурны прывёз бітон парнога малака. "Ну, сябры, хто болей вып'е?" І пайшло-паехала. Тры, чатыры, пяць кубкаў... Я выпіў болей за ўсіх. "Ну, Мікола, ты ж Напалеон!" — смеючыся, падтрымаў мяне наш брыгадзір Віталь Цвірка. Сапраўды, малады я знешнасцю быў нечым падобны да французскага імператара. "Да перамогі ўжо недалёка", — не супакойваўся сябра. "Толькі, ужо пад самы верх падышло", — не вытрымаў я. "Пятнаццаць ні тое ні сёе, давай да круглай лічбы". Угаварылі, даруй ім Божа. Чаго не зробіш у 16 год па дурасці, калі братва падначвае, дапякае, а душа меры не ведае. На падводу ўзлезці ўжо сам не змог, падсабілі хлопцы. Па разбітай дарозе ад нашага калгаса да станцыі Лёзна падводу кідала на ўхабах з боку ў бок. Добра тады мяне пратрэсла. А мянушка Напалеон неяк захавалася і надалей".

Так пачынаўся навучальны год у тэхнікуме. А потым было першае знаёмства з горадам, тэхнікумам, настаўнікамі. Акрамя мастакоў, якія ўжо пэўны час выкладалі ў тэхнікуме, у канцы 20-х гадоў у Віцебск прыехала працаваць моладзь, што скончыла розныя вышэйшыя мастацкія ўстановы Масквы і Ленінграда: выпускнік мастацтвазнаўчага аддзялення Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта П.Даркевіч, навучэнец Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў Ф.Фогт, былы студэнт Віцебскага тэхнікума У.Руцай. А ў 1931 годзе, усяго праз год вучобы М.Чурабы і Г.Бржазоўскага, у складзе выкладчыкаў адбываюцца новыя змены. Пакідае Віцебск У.Руцай, ад'язджае працаваць у Маскву М.Эндэ. Пасля завяршэння вучобы ў Ленінградскім мастацкім інстытуце ў тэхнікум прыязджае працаваць таксама былы навучэнец Віцебскага мастацкага тэхнікума В.Дзежыц, побач з якім на педагагічным аддзяленні пачынаюць выкладаць Л.Лейтман і выпускнік ВХУТЕМАСа І. Ахрэмчык.

**М.Чураба:** "Калі я не памыляюся, спецыяльнай майстэрні ў Івана Ахрэмчыка ў Віцебску не было. Ён займаўся жывапісам у хатніх умовах, часта запрашаў мяне да сябе, паказваў свае творы. Добра памятаю, эскіз карціны "Другі з'езд РСДРП" і кампазіцыя "Бэз" зрабілі на мяне моцнае ўражанне сваім прафесіяналізмам, праўдзівай перадачай выразнага кантрастнага асвятлення ў эскізе, прыгожымі спалучэннямі колераў у нацюрморце.

Мы вельмі любілі і паважалі Міхаіла Аркадзьевіча Керзіна, які выкладаў скульптуру. Пра яго хадзілі чуткі, што ён вялікі эрудыт, быццам бы дай яму любую тэму, і ён будзе гутарыць гадзінамі. Керзін быў сапраўдны інтэлігент. Сціплы ў жыцці, ён быў патрабавальны і вельмі строгі ў адносінах да сябе. Ён мог пачаць перарабляць сваю працу, не шкадуючы яе разбурыць, нават тады, калі заўтра неабходна было паказваць яе выстаўкаму. Калі завяршалася будаўніцтва Дома ўрада ў Мінску і трэба было ўпрыгожыць яго скульптурай, Керзіну прапанавалі зрабіць бюст Карла Маркса. Тады ў прасторнай аўдыторыі на другім паверсе, дзе мы займаліся, яму дазволілі зрабіць з фанеры перагародку для творчай майстэрні. А мой сябра і аднагрупнік Іван Лабкоўскі яму дапамагаў. Аднойчы Міхаіл Аркадзьевіч і мне дазволіў зайсці. Мяне ўразілі каласальныя памеры галавы, удала перададзены востры пагляд, моцны выпуклы лоб... Майстар, абклаўшыся фотаздымкамі Маркса ў розных паваротах, натхнёна працаваў і нешта мармытаў сабе пад нос. Прыслухаўшыся, я разабраў: "...уж семь негритят резвились на просторе, один из них утоп, ему купили гроб... уж десять негритят пошли купаться в море... и вот вам результат, уж трое негритят..." Калі ён неяк захварэў, мы пайшлі праведаць яго і былі ўражаны тым, у якіх умовах ён жыў. З акенца яго "кватэры" былі бачныя толькі ногі прахожых.

Фёдар Адольфавіч Фогт — паўіндус, таксама арыгінальная фігура. На вялікі жаль, у Фогта я не вучыўся. Мне вельмі падабаліся яго карыкатуры ў нашай насценгазеце, якія ён падфарбоўваў акварэллю. Фогт у гэты час займаў пасаду завуча і часта прыходзіў на прагляды студэнцкіх работ. Калі мы былі на апошнім курсе, Фогт арганізаваў працу графічнага аддзялення, на якое перайшлі і некаторыя навучэнцы з нашага патоку".

**Г.Бржазоўскі:** "На жывапісным аддзяленні на другім курсе пасля Руцая выкладаць жывапіс прыйшоў Загароўскі. Спачатку мы ў вялікай колькасці малявалі нацюрморты, дарэчы, даволі цікава пастаўленыя. Аднойчы ён захварэў і прасіў мяне як старасту ставіць для групы нацюрморты. Пазней, калі пачалі маляваць жывую натуру, у якасці натуршчыцы Загароўскі запрасіў сваю жонку, вельмі прыгожую, прывабную жанчыну. Неаднойчы мы выходзілі ў парк, наш педагог на стуле, пастаўленым пасярод клумбы, усаджваў сваю "музу". Асабліва жывапісна заўсёды выглядаў яе твар, і мы з захапленнем браліся за пэндзлі.

Малюнак і шрыфтавыя работы выкладаў Эндэ. Крытыкаваў мяне за літары. Знаўца графікі, ён вельмі ўдала маляваў карыкатуры. На трэцім курсе жывапіс вёў Хрыстафор Даркевіч. У свой час ён скончыў Акадэмію мастацтваў у Ленінградзе і вучыўся ў такіх славутых майстроў, як Рылоў і Савіцкі. Хрыстафор Даркевіч быў вельмі адукаваны чалавек, з вялікімі ведамі. Мастак не толькі займаўся станковым жывапісам, пісаў сюжэтныя кампазіцыі і партрэты, але і вельмі цікавіўся мастацтвам фрэскі. У падвале тэхнікума ён абсталяваў сваю майстэрню, дзе і паказваў нам, навучэнцам, як працаваў Мікеланджэла, як рыхтаваў грунт, як накладваў фарбы... Нацюрморты, праўда, ставіў не заўсёды цікавыя, крыху прымітыўныя. Апошні год жывапіс выкладаў таксама Лейтман. Гэта быў мастак па натуры, таму больш цікава было не слухаць яго парады, а глядзець яго творы. На працягу ўсіх трох год навучання гісторыю мастацтваў чытаў Пётр Даркевіч. Мы з захапленнем слухалі яго прамовы, імкнуліся як мага больш даведацца аб розных этапах развіцця мастацтва, аб сучасных мастаках. Заняткі па скульптуры ў нас праводзіў Ганс Шульц, які прыехаў у Віцебск пасля заканчэння Інстытута пралетарскага мастацтва ў Ленінградзе. Асабліва запомнілася мне першая праца — чэрап каня, які мы ляпілі з гліны і які, дарэчы, мне вельмі ўдаўся. Увогуле, Шульц быў добрым выкладчыкам, неяк удала ўмеў арганізаваць творчы працэс. Аднойчы ён завітаў да нас на жывапіс, уважліва прагледзеў працы, а потым раптам схапіў мой эцюд і са словамі: "Вось глядзіце, які ў нас імпрэсіяніст з'явіўся!" панёс паказваць па ўсіх курсах. Я паставіўся да гэтага даволі спакойна. Але калі прыгадаць афіцыйныя адносіны да імпрэсіянізму ў 30-я гады, то такі пасаж наўрад ці можна было б лічыць добрай рэкламай для мяне.

Малявалі мы ў асноўным з натуры, бо гіпсавых злепкаў у наяўнасці не было. Праўда, неяк давялося маляваць скульптурны партрэт рабочага, выкананы Заірам Азгурам, але такія выпадкі былі даволі рэдкімі. Вучэбныя працы праглядаліся і абмяркоўваліся разам са студэнтамі. Работы звычайна расстаўляліся на мальбертах, і пачыналася абмеркаванне. Многія мае працы таго часу былі забраны ў фонд".

**М.Чураба:** "На педагагічным аддзяленні мы таксама пераважна працавалі з натурай. Малявалі партрэты вугалем і крэйдай на каляровай паперы (з-за адсутнасці цёплых адценняў — на зялёнай), рабілі адзін з аднаго накіды. Выкладчыкі заўсёды былі ўважлівыя да працы студэнтаў, кансультавалі па сваім прадмеце".

Традыцыі рэалістычнага мастацтва сталі ў 30-я гады дамінуючымі ў тэхнікуме. Зразумела, што гэта, у першую чаргу, было абумоўлена афіцыйным напрамкам развіцця ўсяго савецкага мастацтва, сістэмы мастацкай адукацыі. Менавіта ў самым пачатку 30-х пачалі выходзіць адпаведныя пастановы партыі і ўрада, у якіх указвалася на недапушчальнасць розных ухілаў у мастацтве. Рыхтавалася пакрысе стварэнне адзінага і маналітнага Саюза мастакоў. Пасля вольнага суіснавання ў Віцебску самых розных плыняў такая сканцэнтраванасць на "адзіна верным" напрамку ўяўляецца, безумоўна, уціскам натуральных шляхоў развіцця мастацтва. Разам з тым трэба добра ўяўляць сабе, у якім стане апынулася ў той час адзіная ў Беларусі мастацкая ўстанова. Своеасаблівай цэласнай сістэмы мастацкай адукацыі са сваімі традыцыямі за даволі непрацяглы тэрмін у тэхнікуме так і не было створана. Як эксперыментальная лабараторыя сучаснага мастацтва Віцебскае вучылішча-тэхнікум перастаў існаваць амаль адразу пасля ад'езду з Віцебска лідэраў новых формапластычных канцэпцый. Таму вяртанне да класічнай формы акадэмічнай мастацкай школы было на той час, магчыма, і ў нечым актуальнай справай. Сапраўды, пачатак 30-х гадоў даволі складаны час у развіцці мастацтва і адукацыі. Гэта было абумоўлена агульнавядомымі сацыяльна-палітычнымі і эканамічнымі працэсамі, што адбываліся на абшарах усяго былога Саюза. Значна ўзмацніўся на Беларусі палітычны ціск на сістэму навучання і ў мастацкіх установах, узрасла сацыяльная ангажыраванасць мастацтва. Распачыналіся першыя хвалі рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі. У Віцебскім тэхнікуме падставай для пільнай увагі адпаведных органаў, для пераследаванняў нярэдка станавіліся рознае сацыяльнае паходжанне выкладчыкаў і навучэнцаў, наяўнасць непралетарскіх каранёў, надзвычай апантанае захапленне мастакоў тэмамі нацыянальнай гісторыі, праблемамі беларускай вёскі.

Агульная палітызацыя жыцця навучэнцаў вяла да таго, што значнае месца ў ім заняла агітацыйна-афармленчая праца. Менавіта з ёй у той час быў звязаны і так званы калектыўны метад творчасці.

Г.Бржазоўскі

**М.Чураба:** "Калектыўны метад меў на ўвазе выкарыстанне лепшых вучэбных прац, напэўна, для нейкага канкрэтнага аб'екта. Усе тры курсы аб'ядноўваліся і разам рабілі эскізы на зададзеную тэму, кампанавалі. Памятаю, зацвердзілі па кампазіцыі эскіз сцяннай размалёўкі студэнта 3-га курса, а каларыстычнае рашэнне падтрымалі маё. (Можа, за чырвоны каларыт?) Але праіснаваў калектыўны метад, на наша шчасце, не доўга. Напэўна, не апраўдаў сябе".

Асабліва абуджалася дзейнасць груп навучэнцаў, што займаліся афармленнем горада ў перадсвяточныя дні.

**Г.Бржазоўскі:** "Я даволі часта выконваў партрэты вялікіх памераў для святочнага афармлення горада. З натуры на палатне памерам больш за 1,5 м пісаў партрэты рабочых, ваенных. Некаторыя мае сябры пісалі плакаты. На гэта звычайна адводзілася каля месяца да святаў".

**М.Чураба:** "Перад Кастрычнікам і Першамаем да нас прыходзілі "ўдарнікі", і мы разам з Яўгенам Мікалаевым на лісце фанеры вугалем малявалі вялікія партрэты з натуры. Прычым як чарга даходзіла да малюнка вачэй, тут мой сябра казаў: "Ну, Колька, паглядзі". І мне выпадаў гонар ажыўляць гэта "люстэрка душы" — вочы. А падпісвалі працу на манер Кукрыніксаў — МікЧурЛаеў (Мік — ад нашага агульнага імя. Чур — ад майго прозвішча, Лаеў — ад яго). Наша галерэя ўдарнікаў упрыгожвала святочную плошчу.

Калі рабілі эскізы афармлення, захапляліся мы кубізмам і супрэматызмам. Але... Парадокс часу: калі прыходзілі ў майстэрню да Пэна, яго творы нам таксама падабаліся".

**Г.Бржазоўскі:** "Я таксама тры разы быў у майстэрні Пэна. Ужо даволі стары мастак паказваў нам свае працы. Але, як мне здаецца, многае ўжо ў той час было ім прададзена".

**М.Чураба:** "Жылі мы ў інтэрнаце, побач з воданапорнай вежай, на Магілёўскім рынку. Першы курс пасялілі на паддашку. Было холадна і галадна. Стыпендыя была 15 рублёў. Ужо з другога семестра за выдатную вучобу я стаў атрымліваць стыпендыю павышанага тыпу імя Сацспаборніцтва, і атрымліваў яе ўсе тры гады навучання ў тэхнікуме.

Студэнцкая сталоўка знаходзілася ў цэнтры, непадалёку ад тэхнікума, а ад інтэрната трэба было ехаць на трамваі. Каб не спазніцца і доўгую чаргу адстояць, трэба было раней уставаць. А кармілі вельмі дрэнна. На сняданак — скібачка хлеба, лыжка павідла ці кіслага тварагу і шклянка гарбаты. На абед кіслая капуста ды лыжка ячнай кашы, шклянка кампоту, калі можна так назваць ваду, падфарбаваную сухафруктамі. На вячэру — тое ж, што і на сняданак. Валя Ціхановіч, заядлы паляўнічы, часам страляў варон, і мы варылі іх сабе на вячэру".

**Г.Бржазоўскі:** "Я таксама жыў у інтэрнаце. Пакой у нас быў на трох чалавек. Пасля першага курса аднойчы я і трое маіх сяброў — Чарняўскі, Пашута, Ціхановіч — паехалі на экскурсію ў Маскву. Прабылі мы там некалькі дзён, наведалі Траццякоўскую галерэю, Музей выяўленчага мастацтва імя Пушкіна. Аднак вельмі хацелася трапіць у тэатр, і мы вырашылі дабівацца гэтага. Падышлі да адміністратара, сказалі, што мы студэнты Віцебскага мастацкага тэхнікума, і прасілі дапамагчы. А дапамог нам сам Меерхольд. Знакаміты рэжысёр вадзіў нас па тэатры, паказваў, як ставяцца пастаноўкі. А ўвечары, па яго загадзе, нам заўсёды пакідалі білеты на спектакль.

У Віцебску ж асабліва цяжка было ў апошні год навучання, калі мяне з-за непаразумення зусім пазбавілі стыпендыі. Разам з Яўгенам Мікалаевым мы хадзілі харчавацца ў вясковую сталоўку. Там нам пакідалі ежу, а мы, як маглі, адпрацоўвалі яе: малявалі, выконвалі шрыфтавыя работы".

Час навучання ў тэхнікуме праляціць вельмі хутка, і дзевяты выпуск Віцебскага мастацкага тэхнікума атрымае дыпломы аб яго сканчэнні. Неўзабаве Мікалай Чураба стане студэнтам Маскоўскага мастацкага інстытута, атрымае магчымасць вучыцца ў такіх вядомых майстроў, як Фаворскі, Паўлінаў, Істомін, Радзіёнаў. Генрых Бржазоўскі, усяго тры месяцы адпрацаваўшы ў школе, асядзе ў Мінску, дзе працягнуцца актыўныя заняткі мастацтвам у студыі пад кіраўніцтвам Фёдара Мадорава і Міхаіла Керзіна. Прыкладна ў гэты ж час тэхнікум у Віцебску зноў набудзе статус вучылішча, будуць змяняцца дырэктары і выкладчыкі, некаторыя з іх будуць арыштаваны і знікнуць у засценках НКУС. А неўзабаве і ўвогуле будзе вырашацца пытанне аб пераводзе гэтай навучальнай установы ў Мінск. Напярэдадні вайны абодва мастакі, і М.Чураба і Г.Бржазоўскі, будуць на радзіме, на Беларусі. У ахопленым пажарамі акупаваным Мінску згараць усе даваенныя працы Генрыха Бржазоўскага, нямецкай бомбай будуць знішчаны схаваныя ў зямлю работы і дакументы Мікалая Чурабы ў Беластоку. І ці не адзінае, што застанецца ў абодвух мастакоў з таго часу, — гэта іх успаміны...

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**
*Віцебск*

***Ізраільская газета “Новости недели” летась надрукавала палемічны артыкул Аляксандра Этгара, які балюча закранае кожнага, хто неабыякавы да адвечнай праблемы маральнасці. Прапануем прачытаць яго разам з пісьменнікам Навумам Цыпісам.***

# ГАБРЭЙСКІ ХЛОПЧЫК З ПАРТРЭТАМ ГІТЛЕРА, АБО ЦІ ВАРТА ЭМІГРЫРАВАЦЬ “ДЗЕЛЯ ДЗЯЦЕЙ”?

Здзяйсняючы дзяржаўны візіт у Германію ў сярэдзіне студзеня бягучага года, прэзідэнт Ізраіля Эзер Вайцман кінуў толькі адну фразу, вымаўляць якую доўга не наважваліся вышэйшыя кіраўнікі нашай краіны: “Я не разумею габрэяў, якія жывуць у Германії”. Не сумняваюся, што гэтыя словы выклікалі, мякка кажучы, неразуменне ў тых, хто ўжо даўно пачуваецца “бундэсбюргерамі”, і, тым больш, у тых, хто збіраецца набыць гэты статус у бліжэйшы час. І на самай справе, што ж тут незразумелага? Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепей. Ну так, безумоўна, калісьці, вельмі даўно, таты і дзядулі гэтых самых мілых гераў і фрау маглі рабіць якіясьці непрыемнасці нашым продкам. Але сёння ж ўсе яны пакаяліся і, дапамагаючы нам, здымаюць з сябе віну... Безумоўна, мы чытаем у газетах, што 80 працэнтаў габрэяў-эмігрантаў не знаходзяць працы ў Германіі, і атрымліваем лісты, дзе нашыя сваякі скардзяцца на тое, што нават праз некалькі гадоў не знаходзяць з нямецкімі суседзямі агульнай мовы. Але, у рэшце рэшт, хіба справа ў нас, хіба мы дзеля сябе рупімся? Толькі б дзецям нашым было добра...

Што можна супрацьпаставіць гэтай жалезнай логіцы самаадданых габрэйскіх тат і мам, якія гатовы дзеля любімага дзіцяці пакінуць родныя мясціны, любімую працу, нарэшце, адмовіцца ад рэпатрыяцыі ў краіну сваіх продкаў, дзе ўжо жывуць, і зусім някепска, дзесяткі сваякоў ды сяброў... Я перабіраю свае кнігі, часопісы і газетныя выразкі, дзе ізраільскія, нямецкія, амерыканскія і іншыя аўтары пішуць пра нахабныя выхадкі неанацыстаў, пра апаганьванне габрэйскіх могілак і падпальванне сінагог, пра дзіўныя паводзіны германскай паліцыі і патаемныя пастаўкі нямецкай зброі нашаму галоўнму ворагу — Ірану... Я гляджу на фатаграфіі ваенных гадоў, дзе паказаны вясёлыя, прыгожыя нямецкія хлопцы, якія прыстаўляюць дулы сваіх стрэльбаў і пісталетаў да галоў безабаронных людзей... і з жахам разумею, што ўсё гэта бачылі, маглі бачыць тыя самыя габрэйскія мамы і таты, якія пераступілі маральны Рубікон, стрымалі эмоцыі і забыліся на мінулае “дзеля будучыні”...

Ну дык што ж, пагутарым пра будучыню. Пра шчаслівую будучыню шчаслівых дзяцей, пазбаўленых клапатлівымі бацькамі непатрэбных цяжкасцяў ізраільскага жыцця. Пачнём з невялікай цытаты з артыкула Вікторыі Мунбліт, апублікаванага ў газеце “Весткі” 23 лістапада 1995 года.

“Некалькі гадоў таму габрэйская суполка Германіі звярнулася з просьбай да Сахнута: тэрмінова даслаць выхавацеляў і педагогаў для працы ў дзіцячых летніх лагерах. Бацькі-габрэі, якія пакінулі Савецкі Саюз пяць, дзесяць, пятнаццаць гадоў таму, былі вельмі напалоханы: мала таго, што іхнія нашчадкі лічылі сябе немцамі, — у некаторых яшчэ быў знойдзены беражліва схаваны партрэт Гітлера...”

Асобны выпадак? Нетыповы прыклад? Магчыма... Але вось яшчэ адна, зусім “нетыповая” гісторыя, пачутая мною ад сталага веку ўрача, які выехаў у Германію з Кіева каля двух гадоў таму. Ён падышоў да мяне ў Іерусаліме і, просячы прабачэння, на кепскай англійскай мове паспрабаваў высветліць, на якім аўтобусе можна даехаць да Музея Катастрофы “Яд ва-Шэм”. Аказалася, што ён прыехаў у госці ў Тэль-Авіў да прыяцеля, а ў Германію трапіў пасля настойлівых упрошванняў жонкі-негабрэйкі, якая даводзіла яму, што, паколькі іхні сын паводле законаў іудаізму рускі, дык у Ізраілі ім усім рабіць няма чаго.

... Напачатку здавалася, жыццё пацвердзіла, што жонка мае рацыю. Хлопчык цудоўна засвоіў мову і паступіў ва універсітэт. У яго з’явіліся прыяцелі — нямецкія студэнты, і неўзабаве ён атрымаў запрашэнне на “міжсабойчык” да аднаго з іх... Сын з’явіўся дадому раніцай, “асвяжаючы” кватэру пахам алкаголю і жаночай парфумы. Бацька, які не заплюшчыў уначы вачэй, наважыўся папытацца, чаму Сяроожа не здагадаўся хаця б патэлефанаваць усхваляваным бацькам. Усё, што адбылося потым, бацька прыгадвае, нібыта жудасны сон. Сярожа, ягоны любімы і адзіны сын, узняў галаву і паглядзеў на бацьку зусім цвярозым, зласлівым поглядам. “Заткніся, юдэ! — спакойна і выразна сказаў ён бацьку, — яшчэ адно слова — і я вырву твой смярдзючы жыдоўскі язык. Du bist verfluchter russischer Jude! Raus! Прэч з Германії!”

Збянтэжаны аповедам, я зрабіў глупства і запытаўся ў гэтага пажылага габрэя, ці не спрабаваў ён каму-небудзь паведаміць пра гэтае здарэнне і, наогул, якім-небудзь чынам паўплываць на сына. “Што вы, што вы, — занепакоіўся клапатлівы тата, — хлопчык выпадкова сарваўся, магчыма, у яго былі якія-небудзь непрыемнасці. Я не хачу нічым яго папракаць... Не хачу і не маю права”, — дадаў ён пасля паўзы.

Больш я не задаваў яму ніякіх пытанняў. Мне раптам стала зразумела, чаму бацька праглынуў ганьбу той страшнай ночы і калі распавядае каму-небудзь пра гэтую жудасную гісторыю, дык толькі выпадковым суразмоўцам (выказацца ж трэба!). Я зразумеў, што ў яго, сталага, паважанага чалавека, няма маральнага права асуджаць сына за ягоны мярзотны ўчынак. Ён страціў гэтае права ў той момант, калі пераступіў парог нямецкай амбасады ў Кіеве, у тым самым Кіеве, дзе ягоныя бабка і дзед, паводле сведчанняў суседзяў, былі жывымі закапаны ў зямлю ў двары ўласнага дома, таму што з прычыны хваробы не маглі самастойна рухацца ў бок Бабінага Яру. Дзеля “будучыні свайго сына” ён здрадзіў іхняй памяці. Ён здрадзіў памяці бацькі, які загінуў на фронце ад нямецкай кулі, і здрадзіў маці, якая страціла падчас бамбавання вока і кісць левай рукі. Нарэшце, ён здрадзіў самому сабе, хлапчуку ваенных гадоў, які ледзь не памёр з голаду ва ўральскай эвакуацыі...

...У голасе сталага чалавека не адчувалася крыўды — ён выказваў толькі шкадаванне і неразуменне: “Адкуль Сярожа мог нахапацца падобнай гнюснасці? Няўжо ад сваіх нямецкіх сяброў? Я ж бачыў некаторых з іх, яны прыходзілі да нас дамоў. Вельмі сімпатычныя хлопцы ды дзяўчаты, нічога кепскага пра габрэяў я ад іх не чуў...”

... Больш за два гады таму муніцыпалітэт Дрэздэна аплаціў паездку ў Ізраіль невялікай групе такіх самых сімпатычных нямецкіх хлопцаў, каб знішчыць у іх нацысцкія забабоны і ажывіць калі не любоў, дык, прынамсі, павагу да габрэйскага народа і разуменне Катастрофы, якую таму давялося перажыць. Пра тое, што адбылося далей, распавёў журналіст Габі Барон з газеты “Едыёт ахранот”: “У гатэлі ў Нятаніі яны хутка пераапрануліся ў нацысцкую форму і маршавым крокам накіраваліся на пусты ў гэты час пляж адпрацоўваць “гусіны прускі крок салдат СС”. На наступны дзень у экскурсійным аўтобусе яны разам спявалі знакамітыя песні — “Пакуты нашых геройскіх салдат”, “Слава тым, хто адпраўляе жыдоў у крэматорыі” і іншую літаратурна-музычную спадчыну... Пазней у гатэлі ў дзвюх жанчын-габрэек была істэрыка, але тыя, хто суправаджаў групу, не звярнулі на гэта ўвагі.

У Нагарыі экскурсанты сустрэліся з двума пажылымі нямецкімі габрэямі, жыхарамі горада, якія пачалі штосьці распавядаць, і тут пачаўся скандал: “Не жадаем нічога слухаць пра мінулае! Досыць! — раўлі немцы”.

“Не жадаем нічога слухаць пра мінулае”... Як часта мы чуем гэтыя словы ад нашых сяброў і сваякоў, якія прымаюць рашэнне эмігрыраваць у Германію, ад нашых сённяшніх суседзяў і суграмадзян, якія ацэньваюць умовы жыцця ў Германіі і Ізраілі выключна з боку матэрыяльнай карысці. Між тым мінулае нагадвае пра сябе значна часцей, чым нам здаецца. І часам амаль немагчыма адрозніць галасы з мінуўшчыны і цяперашчыны.

“Немцы ёсць розныя, але, у асноўным, гэта культурныя і прыстойныя людзі, гэта вам не дзікая Расія, гэта Еўропа — і еўрапейская прыстойнасць”. Не, гэта не ўрывак з размовы сучасных прэтэндэнтаў на атрыманне статуса ўцекачоў у Германії. Гэтую фразу чула на вуліцах Кіева 29 верасня 1941 года Дзіна Пронічава-Васерман, якая выпаўзла з Бабінага Яру пасля расстрэлу, калі першыя партыі габрэяў ужо валіліся з абрыву, падкошаныя кулямётнымі чэргамі. Гэта былі жывыя людзі з плоці і крыві, якія верылі ў жыццёвую логіку і жадалі шчасця сваім дзецям ніяк не менш за нас з вамі. Гэта былі нашы бацькі і браты, маці і сёстры...

“Мая мама была самая прыгожая мама на свеце! Калі яе вялі ў крэматорый, яна бачыла мяне, мой твар пастаянна стаяў перад ёю. Я гэта ведаю. І на маім страшным шляху перада мною неадступна стаяў твар маёй мамы.

Мама, мне цяпер прапаноўваюць за цябе грошы. Я яшчэ не ведаю, колькі нямецкіх марак даюць за спаленую маму...

У маёй сястры былі доўгія, хвалістыя валасы.. У Асвенціме сястру пастрыглі нагала... Валасы маёй сястры разам з валасамі тысяч да яе падобных былі адпраўлены ў Германію. З іх на фабрыках вырабілі коўдры, капелюшы, мяккія “дзядулевы” фатэлі...

Як я магу ўзяць грошы за маю сястру — вашу палявую прастытутку — і не стаць альфонсам?.. Вярніце мне хаця б адзін валасок з залацістых кудзеркаў маёй сястры, вярніце мне хаця б адзін чаравік майго таты, сапсаваны вінцік з дзіцячага ровара майго маленькага брацікa, пылінку з нагі маёй мамы...”

(К.Цэтнік. 135633. “Гадзіннік над галавой”. Тэль-Авіў, 1973. С. 105 — 107, 110).

Магчыма, усё ж варта прыслухацца да меркавання сведкі на працэсе Эйхмана ў Іерусаліме, былога вязня Асвенціма Іехіэля Дынура, які абраў сабе псеўданім “Канцлагернік”, па першых літарах назвы гэтай папраўчай установы: “Ка-Цэт”. Або нам больш зручна адмахнуцца ад яго гэтаксама, як і ад меркавання аднаго з найбольш паважаных дэпутатаў ізраільскага Кнесета, спікера нашага парламента 1992 г. Дова Шылянскага — аднаго з арганізатараў габрэйскага падполля ў Шаўляі, які прайшоў жахі канцлагера Дахау: “Я хачу адкрыць табе адзін сакрэт: ніякай новай Германіі няма. І чаму яны зробяцца іншымі — драпежнікі, якія стварылі Асвенцім, Дахау, Трэблінку. Маё месца сярод людзей, якія адкрылі для сябе адзінаццаты запавет: “Не забудзься!” (Доў Шылянскі. “Мазэльман”, або Адзінаццаты запавет”, Іерусалім, 1984, с.191).

Усім нам вядома мудрае выслоўе: “На чужым горы шчасця не пабудуеш”. Тым больш нельга пабудаваць шчасце на трагедыі ўласнага народа. Ні для сябе, ні для сваіх дзяцей...

**Аляксандр ЭТГАР**

А вось другая частка назвы: “Ці варта эмігрыраваць у Германію “дзеля дзяцей”? — тут ёсць пра што паразмаўляць... Ні дзеля дзяцей, ні дзеля каўбасы, як і дзеля свабоды творчасці, эмігрыраваць не варта, калі дзецям добра і “тут”: каўбаса ёсць, і яна даступная, а хочаш ствараць — ствара́й. Але стагоддзямі людзі эмігрыруюць адусюль і куды заўгодна і, здаецца, проста дзеля цікаўнасці. “Калі б можна было абіраць, я абраў бы прафесію вандроўніка”, — сказаў Аляксандр Грын і напісаў “Пунсовыя ветразі”. Хто такі вандроўнік, як не перманентны эмігрант. Ва ўсім свеце, дзе не ведалі прапіскі па месцы жыхарства, ніхто не лічыў эмігрантаў здраднікамі. Людзі “бадзяліся” па зямлі, вярталіся, згодна са свабодай сумлення і кішэні, “да сябе”, любячы радзіму без гвалту.

Пытанне не ў тым, куды ехаць: галоўнае — адкуль. І тут, безумоўна, не апошняе месца займаюць дзеці. Вось тады ўжо і “формула” нашай дыскусіі робіцца менш шызафрэнічнай. І ўсё набывае маштаб і робіцца падобным да нармальнай дыскусіі, дзе няма месца народам, якія дасюль змагаюцца, а ёсць людзі, якім ніхто не мае права загадаць, “пад каго рабіць жыццё” і як яго рабіць.

* * *

Нямецкі філосаф-экзістэнцыяліст Карл Ясперс, кажучы пра адказнасць немцаў за “іхні” фашызм, кінуў пракурорскую фразу: “Невінаватых няма!” І ўся Германія, схіліўшы галовы, маўкліва прыняла абвінавачанне.

Тэма, закранутая аўтарам “Хлопчыка з партрэтам...”, і яе “падстава” — абвінавачванне цэлага народа, не новая, як не новы нацыяналізм розных колераў (і нацыянальнасцяў) у сваіх скрайніх праявах.

Чатыры гады таму я, на жаль (і на шчасце), наведаўшы Германію і вярнуўшыся ў Мінск, распавёў пра тое, што ўбачыў. І... выслухаў наступнае. (Дарэчы, прыяцель быў нават нібыта інтэлігент...) “Не могуць немцы пасля трынаццаці гадоў фашызму зрабіцца народам, які разумее, што габрэі, туркі, арабы — таксама людзі. Галандцы і тыя не хочуць, каб побач з імі жылі цыганы!” “Чаму ж ты не дадаў да гэтага спіса беларусаў, рускіх, украінцаў?” — папытаўся я. Ён не верыў, што ў “ягонай” Германіі ёсць іншая Германія.

...Інгрыд Шэфель, псіхолаг, журналістка, кінадакументаліст, сабрала матэрыялы і ў садружнасці з чатырма сваімі калегамі зрабіла ў цэнтры Брэмена выставу пра дні акупацыі ў Мінску, а таксама фільм пра мінскае гета.

З маленькай кіназалы выходзілі дванаццацігадовыя школьнікі. Дзяўчынкі прыціскалі далонькі да твару і ціха ўскрыквалі: “Mein Gott!” Хлапчукі маўчалі.

... З калектыўнага ліста прадстаўнікоў евангелісцкай царкоўнай суполкі горада Дортмунда, што быў накіраваны былой зняволенай мінскага гета: “... Тое, што немцы зрабілі Вам і Вашаму народу — непапраўнае. Мы, маладзейшае пакаленне, нясём адказнасць за нашых бацькоў... Мы спадзяёмся, што Ваш народ, магчыма, калі-небудзь зможа дараваць нашаму народу тое зло, якое ён зрабіў падчас вайны. Ад нас залежыць, ці паверацць людзі Вашай краіны, што мы, немцы, сапраўды жадаем міру. Мы хацелі б папрасіць у Вас і ва ўсяго Вашага народа прабачэння...”

Немцы, якія пішуць такія лісты, гэтак жа далёкія ад тых немцаў, якія паклалі ў магільныя равы мільёны маіх і Аляксандра Этгара суродзічаў, як нацысты трэцяга рэйха блізкія да чырвона-карычневых у цяперашнім СНД (ды і ва ўсіх краінах свету). Нялішне згадаць і пра духоўнае сваяцтва з будаўнікамі “родных” нам ГУЛАГа, Воркуты і Салаўкоў.

...Фрау Фрэдэрыка фон Лукавіц, жонка “майго” прафесара-кардыёлага, даведалася, што габрэйскай сям’і, якая прыехала ў Брэмен для ўдзелу ў антыфашысцкай і антырасісцкай дэманстрацыі, не дазволілі пасяліцца ў гатэлі. І тады арыстакратка надзела свае дарагія ўпрыгожванні і паўстала перад уладальнікам антысеміцкага гатэля.

— Я — баранеса Фрэдэрыка фон Лукавіц. Мне стала вядома, што вы дазволілі сабе зняважыць гасцей Брэмена — габрэяў. У мяне дастаткова сувязяў у дзелавых і ўрадавых колах горада, каб пазбавіць вас вашай справы. Вось адрас людзей, якіх вы пакрыўдзілі. Калі яны не паведамяць мне пра вашыя прабачэнні, я пагутару са сваімі сябрамі. І калі яшчэ раз вы дазволіце сабе заплямiць гонар Брэмена...

Уладальнік гатэля, твар якога набыў у той момант усе адценні інтэрнацыяналізму, горача запэўніў фрау, што гэта было толькі непаразуменне і што ў далейшым...

Праз тыдзень Фрэдэрыка атрымала ліст: уладальнік гатэля папрасіў прабачэння.

Гонар Брэмена ў сувязі са... знявагай габрэяў! Як вам гэта спадабаецца, пан Этгар? Чаму б прэзідэнту Ізраіля Эзеру Вайцману, журналістам Віктару Мунбліту і Аляксандру Этгару, сведку на працэсе Эйхмана Іехелю Дынуру і былому спікеру ізраільскага парламента Дову Шылянскаму не ўявіць сабе, што іх суродзічы (і я ў тым ліку) жывуць сярод такіх немцаў, пра якіх я згадваў вышэй; і сярод тых ста сямі, якія аддалі мне свае маркі, заробленыя нялёгкай працай, каб стала магчымай мая аперацыя і я застаўся жыць; і сярод такіх, як брыгада хірургаў, якія не ўзялі ганарару за гэтую аперацыю...

* * *

... Я паехаў у Германію таму, што ў мяне няма грошай на яшчэ адну (калі будзе неабходна) аперацыю. З такой жа прычыны — у яго няма грошай, каб штодня набываць неверагодна дарагія медыкаменты, — апынуўся там і мой новы знаёмы, будаўнік Нарыльска Уладзімір Авідон, і з той жа прычыны — здароўе! — данецкі інжынер Аляксандр Сукальскі...

Так, шмат хто паехаў дзеля дзяцей (без двукоссяў). Чаму ў іх трэба кінуць камень? Хіба яны не вольныя рабіць тое, што лічаць патрэбным згодна з самым прагрэсіўным дакументам нашага стагоддзя — “Дэкларацыяй правоў чалавека”? Дык каму ж дазволена — не шкадаваць, не проста выказаць меркаванне з сумненнем, — абвінавачваць?..

“Колькі марак даюць за спаленую маму... Як я магу ўзяць грошы за сваю сястру — вашую палявую прастытутку — і не стаць альфонсам?” Як блякла будзе выглядаць пасля гэтых радкоў мая “блюзнерская” папраўка аб тым, што кампенсацыя “плаціцца” не за забітых, а за матэрыяльныя і маральныя страты...

Габрэйскі хлопчык з партрэтам Гітлера — што можа быць больш "рэальным" за гэты "знак" у нашай вар'яцкай нерэальнасці? Але і негабрэйскі хлопчык з гэтым партрэтам — відовішча не менш сумнае. І хоць аўтар артыкула "Габрэйскі хлопчык з партрэтам Гітлера, або Ці варта эмігрываць ў Германію "дзеля дзяцей"?" у ізраільскай газеце "Навіны тыдня" Аляксандр Этгар запрашае чытачоў да дыскусіі — спрачацца няма аб чым.

# АДЗІНАЦЦАТЫ І ДВАНАЦЦАТЫ ЗАПАВЕТЫ

(Дарэчы, а колькі нам заплацілі за "страты" ад Сталіна?)

Жорсткі, але справядлівы адзінаццаты запавет: "Не забудзься!" Але ён толькі "сын" самага святога, дванаццатага запавету, што адкрыла мне мая бабуля: "Жыві!" Растлумачце мне, пан Этгар, як можна жыць на могілках? Жыць можна (і трэба!) толькі паза іхняй брамай, дзе гуляюць вяселлі з адвечным "Фрэйлехе!". Жывыя пахавалі сваіх мёртвых і ім трэба жыць.

Васіль Гросман быў бы Гросманам і без свайго геніяльнага рамана, калі б толькі выказаў раней за ўсіх на зямлі (падчас вайны) наступную думку: "Адной з самых цяжкіх пасляваенных праблем будзе праблема жыцця з нянавісцю".

Васіль Быкаў, увасобленае сумленне Беларусі, сказаў: "Немагчыма сілкавацца нянавісцю з мінулага і культываваць мінулую варажнечу".

Можа, Васіль Уладзіміравіч, а можа, Аляксандр Этгар (і не толькі ён) даводзяць гэта. Іншае пытанне, што з гэтага атрымаецца.

"Хіба можна ў гэтай апраметнай застацца чалавекам?" — пытаецца Вайда праз кінагероя акцёра Альбрыхскага.

"Няма ў мяне ні да кога нянавісці — вось мая ідэалогія", — адказвае збіты да паўсмерці Міхаіл Зошчанка.

* * *

Ізраіль быў створаны на ідэі любові, міру і справядлівасці. Таму і створаны. Нянавісць і помста не мае ніякіх адносінаў да гэтай святой зямлі і гэтай святой ідэі. "Сцяна плачу" і музей "Яд Вашэм" заклікаюць да жалобнай памяці, а не да "свяшчэннай" вайны. А згодна з Этгарам атрымліваецца, што Ізраіль не можа жыць, калі Германія не застанецца для яго адвечным ворагам.

На Беларусі жывуць сёння трыста праведнікаў, якія ратавалі ў час апошняй вайны габрэяў. А ў Германіі? Графіня Марыя фон Мальтцан падчас вайны ў сваім доме ў Берліне схавала 60 габрэяў і па каналізацыйных трубах па начах выводзіла іх з горада.

... Маёр вермахта Бертольд Бальц падчас вайны выратаваў тысячу габрэяў, а ў сваім доме хаваў габрэйскую сям'ю. У яго было чацвёра дзяцей!.. Ён сказаў сваёй жонцы: "Будзе лепеш, калі нашы дзеці застануцца сіротамі, чым калі яны ўсё жыццё пражывуць з бацькамі-баязліўцамі".

Такіх немцаў сёння ў Германіі дзвесце пяцьдзесят...

Мае прыклады — супраць вашых, пан Этгар. Не думаю, што ў каго-небудзь з нас у гэтым ёсць "відавочная перавага". А вось як станеце пачувацца, калі сумленне паставіць супраць сумлення? Не думаю, што вы палегчылі сабе жыццё, напісаўшы небяспечны артыкул.

... Дарэчы, кінафільм "Спіс Шындлера" за паўгода чатыры разы "круцілі" на нямецкім тэлебачанні...

... Лягчэй ісці за гетэрай, чым за Сакратам. Ён вядзе ўверх, яна — уніз. За кім ісці — кожны выбірае самастойна. Журналісту выбар даецца цяжка. Ягоная прафесія падобная да першай, найстаражытнай. Гонар і прыстойнасць, любоў да блізкага, высакароднасць і спачуванне — гэта тое, што мы ўсе абагаўляем на словах (асабліва журналісты), але не кожны і рэдка (асабліва журналісты) скарыстоўвае ў жыцці. Але нават журналісту не варта гуляць у патрыятызм на такой мяжы, дзе змыкаюцца скрайнасці.

Там, дзе нацыянальнае перамагае чалавечае і агульначалавечае, там нараджаецца нацызм.

* * *

Кожны народ жыве жыццём, прапанаваным яму гісторыяй, а злачынцы заўсёды канкрэтныя. Ні нацыя, ні народ тут "ролі не адыгрываюць". Масы ўцягваюцца ў "гульню" на пэўным этапе, механізм якога адпрацаваны стагоддзямі. У шмат якіх выпадках народ выступае ў ролі "агента ўплыву".

Але ў чым нікому, тым больш цэламу народу, нельга адмовіць і тым самым навечна занесці яго ў спіс злачынцаў — гэта ў магчымасці пакаяння. Што з людзьмі робіць ачышчэнне душы, усяму свету паказалі і працягваюць паказваць немцы. Я гэта бачыў.

Замольванне цяжкіх грахоў — справа нялёгкая. Ці трэба гэтаму перашкаджаць, памнажаючы тым самым і без таго вялікую колькасць благіх спраў?

Хай даруе мне чытач "крамольную думку" (больш нічым я не магу вытлумачыць, чаму мы, нічым не адрозніваючыся ад немцаў, жывём, у адрозненне ад іх, зусім не так): "А жывём мы так, як жывём, бо яны пакаяліся так, што былі пачуты, а мы..."

* * *

Пан Этгар, вы не можаце не ведаць, з якой трываласцю і настойлівасцю змагаюцца немцы на сваёй зямлі з неафашызмам і антысемітызмам. Ведаеце вы і пра тое, што ў Расіі (Украіне, Беларусі...) ёсць фашысцкія арганізацыі — і як слаба ўздзейнічае на іх наша слаўная Феміда. Я не ўпэўнены, што і ў Ізраілі на арабскіх магілах не малююць зорку Давіда, гэтаксама, як у цяперашняй Расіі, Беларусі і сённяшняй Германіі, здараецца, малююць свастыку.

Вы апісваеце ў сваім артыкуле сапраўдныя, страшныя прыклады. Іх можна знайсці столькі, што і цягнік не зрушыцца з месца, бо знішчаны 6 мільёнаў габрэяў. Памнажэнне прыкладаў сутнасці не змяняе: габрэйская трагедыя не стане больш трагічнаю — далей няма куды.

Мне б хацелася ведаць іншае — пра што вы думалі, калі пісалі гэта? Зноў жа, вы не можаце не ведаць, што гэтыя прыклады і тое, што за імі стаіць, не адлюстроўваюць сённяшнія стасункі паміж гэтымі двума народамі, якія ледзь не зніклі з зямнога шара. І я не магу паверыць у тое, што вы верыце ў плённасць і дзейснасць помсты праз паўстагоддзя і — адначасова — верыце пры гэтым у мір і спакой для нашых унукаў.

За радкамі артыкула, за "хлопчыкамі" і партрэтамі Гітлера выразна гучыць ваеннае, 1942 года стаўленне да немца як да нацыста. Гэта ж нават колькасна няправільна, не кажучы ўжо пра тое, што, безумоўна ж, не кожны немец "любіў" Гітлера (і тады, і сёння). Габрэяў (і негабрэяў) забівалі і італьянцы, і румыны, і венгры, і беларусы, і рускія... Не ведаю, ці вядома вам, што ў гета (прынамсі, у мінскім) былі габрэі, якія здраджвалі габрэям...

А цяпер — даруйце мне гэты ўспамін з сённяшняй рэчаіснасці — згадаем пра іарданскага салдата, які расстрэльваў ізраільскіх школьніц... І караля Іарданіі — на каленях перад усім Ізраілем.

Амерыканец забівае свайго прэзідэнта, габрэй — свайго. Як жыць з гэтымі ўспамінамі? Пра што я з вамі спрачаюся? Пра колькасць фактаў або статыстыку нацыянальных смерцяў? У справе, дзе эмоцыі могуць перамагчы і ўскінуць на шыбеніцу цэлую нацыю, журналісту трэба быць мудрым. Вы гэтай мудрасці ў даным выпадку, мне здаецца, не выказалі.

* * *

А што цяпер, з вашай "лёгкай" рукі, рабіць беларусам, якіх падчас вайны загінула ад фашыстаў каля трэцяй часткі ад агульнай колькасці? Толькі ў маёй жонкі — цётка з дзіцем спаленыя, другая цётка — загінула ў канцлагеры з двума дзецьмі, адзін дзядзька расстраляны, яшчэ адзін — загінуў у партызанах... Ім, беларусам, згодна з філасофіяй пана Этгара, трэба цяпер усім разам пайсці ў лясы, схавацца з сякерай за гэты вугал гісторыі і... чакаць "немца".

..."Забыцца на мінулае дзеля будучыні?!"

Пераступіць праз "маральны рубікон"...

Навошта вы правакуеце чытачоў — ім і без гэтага нялёгка жывецца. Раскажыце лепш, як у Ізраілі ставяцца да алімаў і ўзгадніце гэта са сваёй "высакароднай" пазіцыяй, выказанай у артыкуле, у стаўленні да немцаў.

Я атрымліваю лісты з Ізраіля. Яны не робяцца больш аптымістычнымі (з той прычыны, што пісаліся там), чым тыя, што пішуцца ў Амерыцы. Такія ж сумныя аркушыкі ідуць на радзіму з Германіі, ад тых, хто жыве там побач са мною. "Няма міру пад алівамі..." Няма шчасця ні ў аднаго з эмігрантаў ва ўзросце мам і тат, бабуль і дзядуль, калі гэтае шчасце не абмяжоўваецца прэйскурантам тавараў у крамах.

Я не здраджваў ні Украіне, ні Беларусі, ні, тым больш, Ізраілю, як і не даваў клятвы вернасці Германіі. У мяне не скончылася захапленне Брэменам, хоць ніколі не высахнуць слёзы тугі па Мінску. Я стаміўся ад паўсюднага неразумення і хлусні, да чаго артыкул Этгара дадае свой "грам".

Таму і пішу гэты каментар. (А як добра было б, калі б гэтага артыкула ўвогуле не існавала б, — я б сядзеў цяпер дзе-небудзь у зацішку, цягнуў бы гарэлачку з кілішка і разважаў з кім-небудзь з сяброў пра жанчын...)

* * *

Дык як жа цяпер жыць беларусам? А так, як яны жывуць, наладжваючы рознакаляровае міжнароднае свята — Шагалаўскі пленэр, ушаноўваючы памяць мастака-габрэя, які "належыць усяму свету і аб'ядноўвае людзей незалежна ад іхняй нацыянальнай прыналежнасці".

На свяце прысутнічаў супрацоўнік нямецкай амбасады ў Мінску, які сказаў, што немцы ганарацца тым, што Шагал яшчэ да дзвюх сусветных войнаў навучаўся мастацтву графікі ў Германіі, а пасля вайны зрабіў Германіі ласку, аформіўшы вітражамі тэатр і царкву. Вось так, Шагал належыць усяму свету (як і ўсе нармальныя людзі), а нашы габрэйскія дзеці і ўнукі абавязаны (згодна з Этгарам) належаць толькі Ізраілю. І ўсё таму, што нейкі малады напалову габрэйскі дурань прыйшоў дадому п'яны і прынёс партрэт Гітлера.

* * *

Ніхто не можа выбраць сабе ні бацькоў, ні радзільны дом. Згодна з законам верагоднасці я з'явіўся на свет на Украіне, вучыўся ў Расіі і сорак гадоў пражыў у Беларусі. І здарылася так, што давялося мне паехаць у Германію, пакінуўшы ў Мінску дачку і ўнука, сяброў і любімую працу. І вось з'яўляецца ў "Навінах тыдня" прафесійна напісаны артыкул пана Этгара і — я ўжо не чалавек з унутранай годнасцю і самапавагай, я ўжо здраднік Ізраіля, маёй "гістарычнай радзімы".

Хто, калі, каму даў права за мяне (і яшчэ за сотні тысяч габрэяў у Германіі) вызначаць мае стасункі з маёй радзімай і з іншымі землямі, прыніжаць мяне, абвінавачваючы ў здрадзе і гандлі крывёю маіх забітых ды закатаваных падчас вайны сваякоў і суродзічаў?! Я не рабіў вас, пан Этгар, ні сваім спавядальнікам, ні сваім адвакатам. Не трэба рабіць мне прышчэпку нянавісці і выдаваць гэта за патрыятызм. Жыву дзе хачу, з кім хачу і так, як лічу для сябе (і любімых мною людзей) неабходным. У гэтым пытанні я салідарны з гераіняй Марыны Цвятаевай: "Целовалась с вором, с нищим, с горбачом, со всей каторгой гуляла. Нипочем! Я не стану целоваться с палачом!"

У першым чытанні, як кажуць цяпер у нашых парламентах, ваша пазіцыя звышвысакародная і непахісная. Але калі зрабіць "другое" чытанне артыкула... — вы зрабілі свайму народу кепскую паслугу. Я зусім не веру ў тое, што так (як напісана ў вас) думаюць усе габрэі ў Ізраілі. А наконт вашай асабістай пазіцыі — не хачу сыходзіць да ментарскага тону, але не магу не нагадаць выказванне яшчэ аднаго мысляра — Курта Вонегута: "Мы менавіта тое, чым хочам здавацца, і таму павінны сур'ёзна ставіцца да таго, чым хочам здавацца".

Нядобра ў сур'ёзных (вельмі сур'ёзных!) справах падтасоўваць карты. Бо "на кону" не грошы — жыцці. Хай артадоксы ды фанатыкі прытрымліваюцца сваіх веравызнанняў. Калі яны лічаць, што ў 40-градусную спякоту трэба апранаць чорнае доўгае паліто і капялюш, а інакш ўпадзе крэпасць сыноў Аўраамавых — дык і няхай сабе лічаць.

Але калі на маю веру (калі б толькі маю!) у тое, што ўсеагульную пасляваенную нянавісць можна абмежаваць і знішчыць, робіць замах прафесійны журналіст, — я буду змагацца супраць гэтага разам з усімі прыстойнымі людзьмі на зямлі.

* * *

Партрэты гітлераў з'яўляюцца (і, магчыма, будуць з'яўляцца) у зусім нечаканых месцах нашага жыцця. Але не з гэтага боку ўзыходзіць сонца, калі ёсць партрэты Шагала і скрыпка Страдывары, сумленне Быкава і вершы Барадуліна, "Дудуткі" Будзінаса і медальёны нямецкіх салдат, выкапаныя праз паўстагоддзя з зямлі маім сябрам Маратам Гаравым і перададзеныя ў Германію...

**Навум ЦЫПІС**

*Брэмен — Мінск*

№ 27–28 12 — 25 ліпеня 1997 г.



Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сасноўскі ўручыў Зоі Белахвосцік, акторцы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы, пасведчанне аб наданні ёй ганаровага звання заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

Пасля ўручэння пасведчання адбылася шчырая размова, падчас якой абмяркоўваліся шматлікія праблемы тэатра.

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

### *У Ракуцёўшчыну — разам*

*26 ліпеня 1997 года ў вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна адбудзецца штогадовае свята паэзіі і песні. У свяце возьмуць удзел вядомыя беларускія паэты, барды, выступяць фальклорныя калектывы. Арганізатары імпрэзы паклапаціліся пра ўсе выгоды добрага адпачынку на ўлонні прыроды.*

*Пачатак свята а 12-й гадзіне. Праезд электрацягніком Мінск—Маладзечна да станцыі Уша.*

*Да сустрэчы ў Ракуцёўшчыне!*




### ГУЧЫЦЬ ДУХОЎНАЯ МУЗЫКА

Некалькі дзён у Магілёве пад скляпеннямі касцёла святога Станіслава праходзілі канцэрты V Міжнароднага фестывалю хрысціянскай музыкі "Магутны Божа". Сюды з'ехаліся творчыя калектывы з Мінска, Рыгі, Польшчы, Грузіі, Украіны.

*На здымку: юны саліст духавога аркестра "Зваленя" з Польшчы.*

**Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.**

## У "ДУДУТКАХ" — МІЖНАРОДНЫ ПЛЕНЭР МАЛАДЫХ СКУЛЬПТАРАЎ

Адкрываючы Міжнародны пленэр маладых скульптараў, які доўжыцца амаль увесь ліпень, у музеі матэрыяльнай культуры "Дудуткі", што на Міншчыне, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь спадар Гедройц заўважыў наступную акалічнасць: мерапрыемства праводзіцца па рашэнню Інтэграцыйнага камітэта вядомай "чацвёркі": Беларусь, Расія, Казахстан і Кыргызстан крочаць поруч да яднання культур. Магчыма, праз духоўнасць пасвятлее і падабрэе наш імперскім развалам пазначаны постсацыялістычны свет. Вось і матэрыял для ўдзельнікаў пленэру выбраны асаблівы — дрэва. Галоўны музейшчык краіны спадар Маслоўскі падкрэсліў, што менавіта дрэва паспрыяе больш выразнаму выкананню задуманага ў такі кароткі тэрмін пленэру.

На адкрыцці пленэру выступіла сакратар праўлення Саюза мастакоў Беларусі Святлана Гарбунова. А ў пленэры бяруць удзел дзесяць творцаў (чацвёра — з Беларусі, трое прадстаўляюць Расію, двое Казахстан, адзін — Кыргызстан). Мастацкі кіраўнік пленэру — вядомы беларускі скульптар Аляксандр Фінскі. Варта заўважыць, што ў апошні час ён актыўна працуе з дрэвам. Вось і леташняя выстаўка Аляксандра Фінскага, што праводзілася ў Парыжы, складалася з работ, выкананых у бронзе і дрэве.

Якія будуць вынікі Міжнароднага пленэру маладых скульптараў, мы даведаемся на яго закрыцці, адпаведна пасля і паведамім зацікаўленаму чытачу. Але відавочна наступнае — месцам правядзення рабочага збору маладых майстроў "Дудуткі" выбраны не выпадкова. У Музеі матэрыяльнай культуры, дзе гаспадарамі фірма "Паліфакт" і пісьменнік Яўген Будзінас, ёсць ганчарная майстэрня, кухня. Аб'екты, якія працуюць. Па жаданні свае здольнасці маладыя скульптары могуць выявіць і ў гэтай сферы. Дарэчы, выступаючы на адкрыцці пленэру, Яўген Будзінас заўважыў, што апошнім часам музей вылучаецца тым, што сюды, у "Дудуткі", прыязджаюць працаваць. І гэта вельмі важна, і гэта спадарожнічае канцэпцыі дзеючага музея.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

## ГАЛЕРЭЯ НА ДВАІХ

У Нацыянальным музеі Беларусі — падзея, на якую варта звярнуць увагу. 10 ліпеня ў ім адбылося адкрыццё выставы (яна працягнецца да 4 жніўня), на якой былі прадстаўлены працы адразу двух беларускіх мастакоў — Валерыя Шкарубы і Аляксандра Шастакова. Выстава зрабіла ўражанне на ўсіх прысутных: і на спецыялістаў, і на людзей, якія проста цікавяцца жывапісам. Адзіны недахоп выставы, на мой погляд,— гэта тое, што карціны размешчаны ў адной галерэі. Гэта некалькі перашкаджае ацаніць індывідуальнасць мастакоў. Тым больш, што і В. Шкаруба, і А. Шастакоў заслугоўваюць персанальнай выставы. Абодва — мастакі своеасаблівыя, кожны са сваім светапоглядам, са сваёй адметнай тэхнікай работы.

Валеры Шкаруба — таленавіты пейзажыст — нарадзіўся ў горадзе Барысаве і ніколі не жыў у вёсцы, тым не менш асноўнай тэмай яго творчасці з'яўляецца сціплы вясковы краявід, у якім мала і сонца, і радасці. Але ў гэтых пахмурных краявідах, як слушна заўважыў адзін з наведвальнікаў, "ёсць святло, у якім і сум, і радасць, і надзея, і шмат яшчэ чаго, чаму і назвы няма". І фарбы мастак выбраў някідкія і спакойныя, як і сам беларускі краявід, які ён паказвае.

Працы Валерыя Шкарубы ні ў якім разе не назавеш фатаграфічнай копіяй. Яго карціны — гэта не проста зафіксаваны краявід, але краявід як стан душы. Майстэрства і тонкае адчуванне прыроды дазволілі мастаку бліскуча выявіць думку, скарыстаўшы і нечаканасць кампазіцыі, і руплівую апрацоўку дэталяў. І гэтыя непрыкметныя дэталі, выпісаныя з надзвычайнай дасканаласцю, выклікаюць у памяці гледача ланцужок асацыяцый, якія вядуць да разумення карціны.

У Аляксандра Шастакова іншая тэматыка. Ён не абмяжоўваецца краявідамі. Найбольш уражваюць мяне партрэты і выявы храмаў. Партрэты напісаны з любоўю (да прыкладу — "Партрэт бацькі"). Мастак здолеў ухапіць момант, калі ў вачах, ва ўсёй паставе кожнага з герояў мадэляў выяўлена іх душа. Нейкая адметная, непрыкметная ў штодзённым жыцці рыса ( задумлівыя вялікія вочы, ганарліва адкінутая галава, засмучаны погляд, нясмелая поза, стомлена складзеныя рукі), тонка схопленая мастаком, надае карцінам жывасць і праўдзівасць. Карціны з выявамі храмаў ("Царква Марыі Магдаліны", "Мячэць", "Ля храма") прывабліваюць сваёй светлай цішынёй. Ім уласціва нейкая няўлоўная духоўнасць, чысціня. Творы А. Шастакова наогул вельмі светлыя. Ад іх адыходзіш з добрай усмешкай і адчуваеш, як спакойна робіцца на душы.

**Ірына АНТАНОВІЧ**



*На рэпрадукцыі: В.Шкаруба. "Восеньскі рух". Палатно, алей.*

## СОНЦА МАСТАКА

У галерэі "Мастацтва" з 11 па 28 ліпеня працуе выстава твораў Сяргея Цімохава. Гэта падзея — чарговая прыступка на лесвіцы прызнання для полацкага мастака, лаўрэата II Міжнароднага пленэру імя Марка Шагала. Час пакутлівага станаўлення светапогляду і набыцця мастацкага вопыту прайшоў разам з навучаннем у Мінскай мастацкай вучэльні і Беларускай акадэміі мастацтваў.

Трыццацісямігадовы майстар працуе ў галіне станковага жывапісу і графікі. На сённяшні дзень яго творчасць — неад'емная частка беларускай нацыянальнай культуры. Большасць яго карцін — вяртанне да гісторыі краіны. Нават не гісторыі, а таго патаемнага, невымоўнага, што называецца духам продкаў, родавай памяццю. Вобразы яго карцін няўлоўныя і хвалюючыя.

На палатне "Вогнішча" — языкі полымя асвятляюць твары жанчын, што паселі наўкола. Твары прыцягальныя, нават знаёмыя, здаецца, што я іх дзесьці бачыла. Магчыма, падобнае пачуццё ўзнікала ў іншых наведнікаў выстаў Сяргея Цімохава ў Полацку, Вільнюсе, Гродне, Мінску.

Палатно "Рытуальнае шэсце" — пра загадкавае дзейства; для ўсіх непасвячоных яно цьмянае па сэнсу, як падгледжаны паганскі абрад. Целы жанчын схаваны пад рытуальным адзеннем, і можна бачыць толькі іх твары, на якіх боль, смутак, разгубленасць.

Назвы палотнаў — "Пейзаж 19", "Дрэва-стод", "Стод 2"—падштурхоўваюць да разумовай і духоўнай працы. Гледзячы на гэтыя палотны, я не тое што разумела, а хутчэй адчувала размову душы з чымсьці, частка чаго яна некалі была.

**Ганна ДАШКЕВІЧ**

## Пётр Серапіёнавіч Крохалеў

Беларускае выяўленчае мастацтва панесла вялікую страту.

15 ліпеня 1997 года на 78-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы памёр заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, прафесар Пётр Серапіёнавіч КРОХАЛЕЎ, выдатны мастак-жывапісец, педагог, ветэран Вялікай Айчыннай вайны.



Лепшыя гады жыцця П.С.Крохалева былі аддадзены развіццю прафесійнага выяўленчага мастацтва, выхаванню творчай моладзі.

П.С.Крохалеў нарадзіўся 5 кастрычніка 1919 года ў вёсцы Мыльнікава Шадрынскага раёна Курганскай вобласці ў сялянскай сям'і. З 1937 па 1939 гг. вучыўся ў Свярдлоўскім мастацкім вучылішчы, прайшоў слаўны шлях абаронцы Айчыны на Карэльскім перашэйку (1939—1940 гг.) і на франтах Вялікай Айчыннай вайны, быў узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Пасля Вялікай Перамогі працягваў мастацкую адукацыю ў Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І.Я.Рэпіна Акадэміі мастацтва СССР. Адразу пасля заканчэння вучобы малады мастак быў накіраваны на творчую і педагагічную працу ў сталіцу Беларусі.

У 1952 годзе П.С.Крохалеў быў прыняты ў Саюз мастакоў БССР. З 1953 па 1960 працаваў выкладчыкам спецыяльных мастацкіх дысцыплін у Мінскім мастацкім вучылішчы, выкладаў на кафедры малюнка і акварэлі Беларускага політэхнічнага інстытута, а затым, да выхаду на пенсію, — у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце на пасадах выкладчыка, дэкана мастацкага факультэта, загадчыка кафедры жывапісу.

За гады працы з майстэрні прафесара П.С.Крохалева выйшла цэлае пакаленне беларускіх мастакоў.

Вядома яго грамадская дзейнасць у якасці намесніка старшыні Саюза мастакоў БССР, старшыні Праўлення Мастацкага фонду БССР.

П.С.Крохалеў вядомы як аўтар многіх тэматычных карцін, партрэтаў і пейзажаў, ён удзельнічаў у шматлікіх рэспубліканскіх, усесаюзных і замежных выставах. Творы вядомага аўтара знаходзяцца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, Рэспубліканскай мастацкай галерэі, Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Дзе б ні працаваў Пётр Серапіёнавіч, ён заўсёды прынцыпова ставіўся да даручаной справы, карыстаўся вялікай павагай сярод калегаў і творчай моладзі.

Светлая памяць аб Пятру Серапіёнавічу Крохалеве назаўжды захаваецца ў нашых сэрцах.

**А.У.Сасноўскі, У.П.Рылатка, В.К.Гедройц, М.А.Савіцкі, В.П.Шарангові ч, М.В.Данцыг, Г.Х.Вашчанка, В.А.Грамыка, Б.У.Аракчэеў, У.С.Басалыга, У.А.Тоўсцік.**

# ПАЛЕСКІ КАРАГОД

У Пінску з вялікім поспехам прайшоў III Міжнародны фестываль рэгіянальнага народнага танца "Палескі карагод".

У ім прынялі ўдзел трыццаць чатыры калектывы з Беларусі, Украіны, Расіі, Польшчы, Турцыі. Праграма фестывалю была вельмі насычаная. Адкрывалі яе конкурс балетмайстарскіх работ, два вялікія канцэрты, дзіцячае свята "Юныя зоркі Палесся", фальклорнае свята ў вёсцы "Сёмуха".



На адкрытых пляцоўках горада і раёна прайшло больш як сто выступленняў самадзейных артыстаў.

Лаўрэатамі фестывалю сталі 10 ансамбляў, група лепшых харэографаў, музыканты. А дыпломы і падарункі атрымалі ўсе ўдзельнікі танцавальнага свята.

**Сямён ШАПІРА**
**Фота Міхася ЛІНКЕВІЧА**
*Пінск*

# БЛУКАЮЧЫЯ ЗОРКІ

***Што такое журналісцкі шанц? Гэта калі вяртаешся з камандзіроўкі без добрых матэрыялаў і ў цягніку ў сваім купэ сутыкаешся з цікавым чалавекам, які з гатоўнасцю расказвае аб сабе ці аб сваёй дзейнасці. Такі шанц выпаў мне — я сустрэўся з мастацкім кіраўніком ансамбля "Блукаючыя зоркі", удзельнікам Полацкага камернага хору Піліпам ЗАЙТАМ. Мы разгаварыліся, і я даведаўся, што Полацкі камерны хор, у якім Піліп Заўт спявае ў групе басоў, атрымаў Гран-пры на фестывалі "Пеўчае поле".***



— Старшынёй журы фестывалю "Пеўчае поле" быў Міхась Дрынеўскі. У фестывалі бралі ўдзел 7 акадэмічных хароў і 7 народных. Дыяпазон фестывалю пашырыўся, бо акадэмічныя хары ўдзельнічалі ўпершыню. Праграма акадэмічных хароў выконвалася ў касцёле, народных — пад адкрытым небам. Фестываль праходзіў 3 дні — 4—6 ліпеня. У першы дзень адбывалася прэзентацыя калектываў — кожны выканаў 1—2 песні. На другі дзень, 5 ліпеня, — конкурсныя выступленні, а вечарам усе калектывы раз'ехаліся па вёсках, дзе выступалі перад мясцовымі жыхарамі. 6 ліпеня — фінал, кожны калектыў выканаў па два творы, а затым зводны хор у складзе 500 чалавек праспяваў "Ой, рана на Івана", "Радзіма мая дарагая" і яшчэ адну песню на словы Максіма Танка. Наш Полацкі камерны хор, які ўпершыню ўдзельнічаў у гэтым фестывалі, атрымаў Гран-пры і рэкамендацыю на паездку ў Дублін у наступным годзе. Там будзе міжнародны фестываль, у якім Беларусь упершыню возьме ўдзел.

**— Раскажыце больш падрабязна пра Полацкі камерны хор.**

— Наш хор створаны ў сакавіку 1990 года. Ядро калектыву — гэта выкладчыкі Наваполацкай музычнай вучэльні. Наш калектыў з'яўляецца лаўрэатам міжнародных харавых форумаў. Мы атрымалі I прэмію і пераходны прыз Папы Рымскага — Сярэбраную ікону Прасвятой Багародзіцы — на I Сусветным фестывалі духоўнай музыкі "Магутны Божа", які праходзіў у Магілёве ў 1993 годзе. У 1994 годзе ў Гайнаўцы (Польшча) мы атрымалі I прэмію на XIII Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі. Мы з'яўляемся ўладальнікамі Сярэбранага дыплома конкурсу імя Р.Шумана, які праходзіў у 1995 годзе ў Германіі ў горадзе Цвікау.

З поспехам наш хор выступаў на фестывалях: Бадэнзее-93 (Германія), Eurotreff music-95, на 500-годдзе Францыска Скарыны (Беларусь, 1990 г.), Славянскія культур (Латвія, 1991г.), духоўнай музыкі (Масква, 1994—95 г., Чэнстахова, 1995 г.). Мы выступалі з канцэртамі ў Беларусі, Расіі, Латвіі, Польшчы, Германіі. У рэпертуары хору — духоўная музыка, беларускія народныя песні і арыгінальныя творы беларускіх кампазітараў, заходнееўрапейская музыка (ад Рэнесансу да нашых дзён).

Хор складаецца з 25 чалавек, мастацкім кіраўніком у нас — Людміла Жукава, вядомы ў Беларусі хормайстар з выразнай творчай індывідуальнасцю.Полацкі камерны хор створаны энтузіястамі.

**— Якое з апошніх выступленняў вам запомнілася?**

— Пяць дзён назад мы вярнуліся з фестывалю ў Польшчы, у якім удзельнічалі камерныя хары. Акрамя нас з Беларусі быў калектыў з Гродна. Мне спадабаліся выступленні тбіліскага хору і аб'яднанага нямецка-польскага.

**— Вы з'яўляецеся мастацкім кіраўніком габрэйскага ансамбля "Блукаючыя зоркі" і адначасова спеваком Полацкага камернага хору. Як гэта стасуецца і як вы гэта сумяшчаеце?**

— Акрамя гэтых двух калектываў ёсць яшчэ "Полацк-Аніма-Квартэт". Тут атрымліваецца сітуацыя — калектывы ў калектыве, але ў добрым сэнсе: удзельнікі і габрэйскага ансамбля, і квартэта спяваюць у Полацкім камерным хоры.

**— Я ведаю, што "Полацк-Аніма-Квартэт" браў удзел у закрыцці Шагалаўскіх дзён у Віцебску.**

— Так, квартэт адразу пасля "Пеўчага поля", дзе выступаў у складзе Полацкага камернага хору, паехаў у Віцебск. Калектыў удзельнічаў і ў "Славянскім базары". Квартэт створаны два гады таму. Вось яго склад: Аляксандр Старасценкаў — бас, мастацкі кіраўнік квартэта, Віталій Эрпорт — тэнар, Святлана Трушкіна — мецца-сапрана, Святлана Заборская — сапрана, Марына Старасценкава — піяністка, канцэртмайстар. Калектыў вельмі адметны, каларытны.

**— Калі і як быў створаны ансамбль "Блукаючыя зоркі"?**

— "Блукаючыя зоркі" ўзніклі ў 1993 годзе, калі ў Полацку быў арганізаваны габрэйскі культурны цэнтр і я стаў яго старшынёй. І хоць найбольш яркія зоркі ансамбля з'ехалі ў Ізраіль (Рыгор Раскінт, Пётр Грынбарт, Мая Пташкер), калектыў жыве і паспяхова выступае. У мінулым годзе мы атрымалі I прэмію на I Фестывалі нацыянальных культур у Гродне.

"Блукаючыя зоркі"— габрэйскі ансамбль, але па складу інтэрнацыянальны. Мы выконваем творы на ідыш, іўрыце, англійскай, беларускай, рускай мовах.

**— Піліп, акрамя творчай дзейнасці ў вас ёсць асабістае жыццё. Раскажыце пра сябе.**

— Я нарадзіўся ў Адэсе, скончыў інстытут ваенных дырыжораў у Маскве, трапіў у Беларусь у 1957 годзе. Тут у мяне трывалыя карані — дзве дачкі, трое ўнукаў.

**— Акрамя творчасці ў вас ёсць яшчэ нейкія захапленні?**

— Я ўжо 25 гадоў "маржую" ў Заходняй Дзвіне.

**— Я ўдзячны вам за цікавую размову і зычу поспехаў ва ўсіх вашых пачынаннях.**

**Міхась БАШУРА**

*На здымку: Полацкі камерны хор.*

*Ліст у рэдакцыю*

# Дарагія браты і сёстры!

У самыя цяжкія часы для нашага народа і Айчыны мы змыкалі плечы і ядналі сэрцы вакол Маці Царквы.

Нараджаліся і паміралі дзяржавы, з'яўляліся і зніклі рэжымы, войны, паўстанні і рэвалюцыі палівалі зямлю рэкамі крыві чалавечай, але непахісна стаяла, стаіць і будзе стаяць нашая Святая Праваслаўная Царква. Больш за тысячу гадоў яна нясе сваю выратавальную місію на цудоўнай, шматпакутнай беларускай зямлі. І ўсе гэтыя гады яна была са сваім народам, падзяляла ягоныя радасці і беды.

І цяпер, у гэты складаны, цяжкі час, мы звяртаемся да Бога, да Царквы з малітваю, любоўю, верай і надзеяй на пераадоленне цяжкасцяў, адраджэнне духоўнасці, хрысціянскіх маральных каштоўнасцяў, усталяванне жыцця, вартага Чалавека.

Дзесяцігоддзі бязбожжа і ваяўнічага атэізму, апаганення святыняў прывялі да глыбокага духоўнага, маральнага крызісу, які паводле сваіх наступстваў больш небяспечны за крызіс эканамічны. Свабода, плюралізм мерканняў успрымаюцца як усёдазволенасць, анархія і бездакзаннасць. Любоў да Бога і любоў да блізкага — самыя галоўныя запаветы Збаўцы — падмяняюцца нянавісцю, злаславасцю і абыякавасцю.

Магутная сістэматычная прапаганда магутнымі ж сродкамі масавай інфармацыі самых нізкіх чалавечых інстынктаў — гвалту, жорсткасці, падману, разбэшчанасці, забойстваў — прадстаўляюцца як дазволеныя, нармальныя з'явы штодзённага жыцця.

Карыстаючыся духоўным невуцтвам нашага народа, усё больш шырае распаўсюджанне атрымлівае дзейнасць экстрасенсаў, варажбітоў, шаманаў, знахараў і да т.п. На гэтай жа глебе квітнеюць таталітарныя, дэструктыўныя секты, сатаністы. Для іх няма нічога святога. Апаганьваюцца і разбураюцца храмы, могілкі, помнікі.

Умела карыстаюцца духоўным вакуумам рознага кшталту заезджыя місіянеры і авантурысты, якія ўзнімаюць руку на нашу культуру і традыцыі.

Уся гэтая брудная плынь асабліва згубна ўплывае на дзяцей і моладзь, якія не маюць моцных маральных перакананняў, жыццёвага вопыту. Сілы зла робяць усё магчымае, каб раздзяліць сына і бацьку, дачку і маці, Царкву і грамадства, тым самым паставіўшы іх на шлях цяжкіх канфліктаў ды пакут.

Праваслаўная Царква, увесь сумленны праваслаўны народ не могуць быць пасіўнымі сузіральнікамі таго, што адбываецца.

Кіруемыя верай у Госпада нашага Ісуса Хрыста, айцы Царквы ведалі і ведаюць, як супрацьстаяць такому злу. Царква мае шматвяковы вопыт духоўнай асветы і выхавання. Прапаведзь Святога Пісання, вывучэнне "Закону Божага", раскрыццё нормаў хрысціянскай маралі з'яўляюцца неабходнай і вельмі важнай часткай гэтых ведаў. Аднак у нашай краіне адчуваецца недахоп духоўнай літаратуры, "Закону Божага". Царква дасюль не мае доступу да духоўнай адукацыі і выхавання дзяцей і моладзі ў сістэме дзяржаўных навучальных устаноў, хоць патрэба гэтага даўно наспела. Апытанні, наладжаныя сацыялагічнай групай навукова-даследчай лабараторыі сацыяльна-эканамічных праблем пры кафедры філасофіі і метадалогіі навукі БДУ ў Калінкавічах, Нясвіжы і Мінску, паказалі, што амаль 80 працэнтаў (79,9) апытаных лічаць патрэбнай такую адукацыю. У тым ліку 57,7 працэнта хацелі б ускласці гэты абавязак на агульнаадукацыйную школу.

З блаславення Мітрапаліта Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, "Праваслаўная ініцыятыва", фундатарам якой з'яўляецца Беларуская Праваслаўная Царква, вырашыла выдаць кнігу "Закон Божы" і забяспечыць ёю ўсе прыходы, нядзельныя школы, кожную сям'ю, якая мае ў ёй патрэбу, а таксама звярнуцца да ўсіх праваслаўных хрысціян з просьбай падтрымаць ўвядзенне вывучэння Закону Божага (згодна з жаданнем бацькоў) у праграму сярэдняй і сярэдняй спецыяльнай школы.

Дарагія браты і сёстры! Просім усіх, хто пагадзіўся з нашай прапановай, паставіць свае подпісы пад гэтым зваротам, а таксама праявіць сваю ініцыятыву і арганізаваць збор подпісаў у сваіх прадпрыемствах, арганізацыях, у навучальных і навукова-даследчых установах, па месцы жыхарства, у сёлах і вёсках. Сабраныя подпісы накіроўваць на адрас: 220071, г.Мінск, вул.Берасцянская, 17. Тэлефон (017) 236-04-94.

Дарагія браты і сёстры! Хто хоча жыць паводле Божага Закону, хто жадае згоды, міру і любові ў сем'ях і ў нашай Айчыне, просім паставіць свае подпісы над нашым зваротам.

Няхай дапаможа вам Уселітасцівы Бог у гэтай богаўгоднай справе.

Ахвяраванні на выданне "Закону Божага" можна пералічваць: ЗАТ "Праваслаўная ініцыятыва", на р/р 3012200000583 у філіяле 520 АСБ "Беларусбанк" г.Мінска, К-253, на выданне "Закону Божага".

**Чартовіч В., генеральны дырэктар ЗАТ "Праваслаўная ініцыятыва"; Шамякін І., Герой Сацыялістычнай Працы, народны пісьменнік Беларусі, акадэмік Акадэміі навук Беларусі; Савіцкі М., народны мастак СССР, правадзейны член Акадэміі мастацтваў РФ, акадэмік Акадэміі навук РБ; Мількамановіч В., член Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу РБ, галоўны ўрач 9-й клінічнай бальніцы г.Мінска; Быхавец В., заслужаны работнік прамысловасці РБ, акадэмік Інжынернай акадэміі, прэзідэнт ААТ "Белэлектрапрыбор"; Роўда В., мастацкі кіраўнік акадэмічнага хору Белдзяржтэлерадыёкампаніі, народны артыст СССР, прафесар Беларускай акадэміі музыкі; Калугін Л., генеральны дырэктар АТ "Атлант"; Пенза В., дырэктар Мінскага падшыпнікавага завода; Кутавы Б., генеральны дырэктар выдавецтва "Беларускі дом друку"; Данец А., генеральны дырэктар ААТ "Белтрубаправодбуд"; Нагорны С., дырэктар дзяржаўнага прадпрыемства — завода "Тэрмапласт"; Лакіна Н., настаўніца СШ № 125 г.Мінска; Каралёў І., урач Рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы; Турава Л., дырэктар нядзельнай школы пры Свята-Марыі-Магдалінінскай царкве г.Мінска.**

*Летам*

# ПАД "КАЗЁЛКАМІ", ЦІ Ў СТАЛІЦЫ "ВЯЛІКАЙ ПОЛЬШЧЫ"

**Мала засталося беларусаў, якія хаця б раз не выбраліся да нашай бліжэйшай заходняй суседкі — "на гасціны" ці "за інтарэсам". Аднак жа камерцыйныя інтарэсы часцей за ўсё вядуць не далей аптовага рэчавага рынку на варшаўскім стадыёне, а турыстычныя вандроўкі — куды-небудзь у Кракаў ці ў Гданьск. У заходнія ваяводствы Польшчы беларусы амаль не наведваюцца. Але распавядаць пра Познань варта не толькі таму, што гэты горад мала вядомы нашым суайчыннікам, Познань — цэнтр гістарычнай вобласці Польшчы з назвай "Велькапольска". Адсюль, па паданнях, на тры бакі свету разышліся браты Чэх, Лех і Рус, каб заснаваць тры славянскія дзяржавы (па іхніх імёнах няцяжка здагадацца, якія). А згодна гістарычным звесткам, з Познані тысячагоддзе таму пачыналася Польскае каралеўства. У 1831 — 32 гадах тут жыў Адам Міцкевіч, шматлікія рэмінісцэнцыі з яго тутэйшага жыцця потым правіліся ў "Пане Тадэвушу". У Познані імем Міцкевіча названыя галоўная плошча і універсітэт. Тут штогод праводзіцца звыш дваццаці міжнародных выставаў-кірмашоў і варыцца вядомае ў цэлай Польшчы і за яе межамі піва "Лех".**

### Грошы ёсць грошы

...Цягнік "Варшава — Брусель" спазніўся ў Познань на паўгадзіны — не надта многа, але для мяне гэтае спазненне аказалася амаль фатальным: пасля адзінаццатай гадзіны вечара гарадскі транспарт — трамвай і аўтобус — не працуе. Багажу ў мяне не было, і я вырашыў прайсці трохі пешшу праз начны Стары горад да бліжэйшага тэлефона-аўтамата, каб па ім паведаміць прыяцелям-пазнанякам аб сваім прыбыцці. Аказалася, тэлефонаў, па якіх з дапамогай прыгожай урметаўскай карткі можна тэлефанаваць на цэлы свет, у Познані, у адрозненне ад Варшавы, няшмат: прамінуўшы Стары горад амаль цалкам, я не сустрэў ніводнага. Ды і прахожых, каб запытацца, не было, толькі раз-пораз праязджаў паліцэйскі патруль, трохі сцішваючы рух ля мяне, але ж я палічыў за лепшае сваіх праблемаў паліцыі не давяраць. Удоўж адной з вуліц стаялі ў незалежных позах дзяўчаты з акруглымі формамі, і менавіта гэтыя "начныя матылькі" канчаткова пераканалі мяне, што палова на дванаццатую для Познані — позняя гадзіна. Давялося траціцца на таксі. Злотых у мяне яшчэ не было, на пытанне, ці возьме "пан кіроўца" долары, пачуў: "Чаму не? Грошы ёсць грошы".

Між тым, нягледзячы на даволі вялікую інфляцыю — каля 30 працэнтаў у год, "кантолы" абмену валют сёння працуюць не надта напружана, палякі перасталі захоўваць грошы ў цвёрдай валюце, прынамсі, у наяўнай. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца пластыкавыя карткі безнаяўных разлікаў. Банкаматаў, у якіх па картцы можна атрымаць наяўныя са свайго банкаўскага рахунку, у Познані, напрыклад, значна больш, чым тэлефонаў-аўтаматаў, і ўсё ж часам людзі стаяць да іх у чарзе. Для Польшчы гэта асаблівы паказчык, тут чэргі сустрэнеш нячаста. Толькі яшчэ ў адным месцы я іх бачыў — у магазіне "Парсючок". Такіх магазінаў у Познані некалькі, зразумела, у іх прадаюць вырабы з мяса. Як бы банальна гэта ні гучала, але ж разнастайнасць тых вырабаў уразіць любога, нават шмат пабачыўшага наведвальніка. Цэны тут трохі вышэйшыя, але менавіта сюды прыходзяць пазнанякі, калі жадаюць пабалаваць сям'ю ці гасцей найсвяжэйшымі "вэндлінамі", якія тут можна выбраць з некалькіх сотняў (!) найменняў. Нават у летнюю спёку, калі заходзіш у кліматызаваны "Парсючок", апетыт уздымаецца імгненна проста ад пахаў.

Наогул, кліматызацыя ці кандыцыяніраванне — нярэдкія ў склепах; у кожным спажывецкім склепе па вашым жаданні кілбаску ці сыр ці нават хлеб нарэжуць танюткімі, ідэальна роўнымі лустачкамі. "Грошы ёсць грошы" — пакупнік, той, хто траціць, не толькі заўсёды мае рацыю, але і заўсёды адчувае да сябе павагу. Пра тое, каб прадаваць летам напоі не з халадзільніка, няма гаворкі. Да таго ж у піўніцы вам пададуць піва толькі ў адпаведным куфлі: "Леха" — з надпісам "Лех", "Жывеца" — з надпісам "Жывец". І ніхто не пакажа незадаволенасці, калі вы пры гэтым куфлі ды зацікаўленай размове з калегамі прасядзіце цэлы вечар.

### У калегаў

У перадваенным 1938 годзе, калі насельніцтва Познані налічвала некалькі дзесяткаў тысяч чалавек, тут выходзіла каля 40 найменняў газет. Цяпер у больш чым паўмільённым горадзе іх трохі менш, але ж са штодзённых можна выбраць "Глос Велькапольскі", "Газэту Пазнаньску" ці "Пазнаньскі экспрэс", гэта не прымаючы ў разлік спецыяльныя познаньскія выпускі агульнапольскіх, напрыклад "Газэты выборчай". Найпапулярнейшай застаецца тут "Глос Велькапольскі" — штодзённая газета з накладам 180 тысяч, які, апрача ваяводства, разыходзіцца яшчэ ў 70-ці гарадах краіны. Газета часам налічвае 60 (!) старонак такога фармату, як "Культура", зразумела, з рэкламай і аб'явамі. Выдаваць такую масу навін, натуральна, было б немагчыма без адпаведнага забеспячэння. На некалькі дзесяткаў супрацоўнікаў працуе камп'ютэрная сетка, кожны мае ўласную працоўную станцыю, што дазваляе хутка праводзіць тэксты праз усе аперацыі рэдагавання і карэктавання. Апрача камп'ютэрных сэрвераў — моцных камп'ютэраў, што забяспечваюць унутраныя патрэбы, існуюць асобныя сэрверы для атрымання інфармацыі па электроннай пошце і для атрымання фотаздымкаў — з усяго свету. Па словах сакратара рэдакцыі Яраслава Пятроўскага, які правёў мяне па ўсіх памяшканнях, "Глос Велькапольскі" мае камп'ютэрнае забеспячэнне больш сучаснае, чым у некаторых вялікіх заходніх газетах, бо яно набывалася ў апошнія 2-3 гады. Газета выходзіць у чорна-белым выкананні, але ж мае некалькі каляровых дадаткаў, прысвечаных здароўю, сям'і, моладзі, кіно і тэатру.

Са спецыялізаваных перыядычных выданняў вялікім попытам карыстаецца "Інфарматар культуральны, спартовы і турыстычны" — "IKS". Гэты глянцавы каляровы штомесячнік кніжнага фармату карысны не толькі шматлікім гасцям Познані (а горад мае славу турыстычнага цэнтра міжнароднага ўзроўню), але ж і самім пазнанякам. Тут у зручным і "атракцыйным" стылі пададзена дакладная інфармацыя пра ўсе падзеі культурнага і духоўнага жыцця горада. Без такога інфарматара арыентавацца ў гэтым жыцці было б вельмі цяжка: у Познані шэсць тэатраў, у тым ліку "Велькі тэатр" оперы і балета, адзін з трох з такой назвай у краіне, трыццаць сем (!) мастацкіх галерэяў і больш за сорак музеяў — разам з музеямі ў бліжэйшым наваколлі — з пастаяннымі і зменнымі экспазіцыямі.



### Пад крыжамі і пад "казёлкамі"

Як і ў большасці старых польскіх гарадоў, сапраўдны музей пад адкрытым небам — Стары Рынак, як называецца прыгатная плошча Познані, і ўвогуле ўся старая частка горада. На плошчы перад Замкам — былой рэзідэнцыяй кайзера Вільгельма II, якая цяпер носіць імя Адама Міцкевіча, стаяць два помнікі: самому "вешчу"-паэту і паўстанцам 1956 года — два бетонныя крыжы вышынёй 21 метр. Тут адбылося адно з першых на прасторах "сацыялістычнага лагера" выступленняў працоўных супраць камуністычнай сістэмы. На гэтую плошчу, дзе знаходзіліся гарадскія і ваяводскія органы кіравання, 28 чэрвеня прыйшло больш за сто тысяч працоўных буйнейшых заводаў Познані. Яны спявалі патрыятычныя і рэлігійныя песні, неслі бел-чырвоныя сцягі і транспаранты з патрабаваннямі свабоды і хлеба. Маніфестацыя перарасла ў бунт супраць насілля і беззаконня, бунтары захапілі турму, міліцэйскія камісарыяты, спрабавалі захапіць будынак дзяржбяспекі. Улады ўвялі ў горад войскі, некалькі гадзін працягваўся сапраўдны бой, у якім загінула 70 чалавек, каля 900 было паранена. У наступныя дні некалькі сот чалавек прайшлі праз допыты і турмы. Гісторыю паўстання на дзесяці мовах распавядае аўтаматычны электронны гід, што стаіць тут, ля крыжоў. Познаньскі бунт, лічыцца, паклаў пачатак развалу камуністычнай сістэмы, аднак гэта было не апошняе выступленне. На крыжах пазначаны гады наступных бунтаў: 1968, 1970, 1976, 1980... Помнік пабудаваны па ініцыятыве "Салідарнасці" ў 1981-м на грамадскія ахвяраванні. Дарэчы, гэтым спосабам будуецца і адбудоўваецца большасць помнікаў. Скрынкі для ахвяраванняў можна ўбачыць і ў касцёлах, і проста на вуліцах. Да гэтага часу працягваецца рэстаўрацыя гарадской ратушы, але галоўная славутасць — ратушныя "казёлкі" — працуе. Гэта белыя драўляныя козачкі з залатымі рожкамі, якія выбягаюць і бадаюцца над гадзіннікам высока на ратушнай вежы, калі той адбівае поўдзень. На гэтае відовішча на плошчу збіраецца вялікі натоўп, галоўным чынам турыстаў. Кажуць, што некалі даўно, калі ў ратушы працавала гарадская рада, у кухню прывялі белых



казачак — на абед адказным мужам. Малы кухарок пашкадаваў жывёлін і схаваў іх высока на вежы, але на наступны дзень, калі гадзіннік пачаў адбіваць поўдзень, козы спужаліся і выбеглі на балкон. Невядома, як доўга пасля гэтага яны яшчэ радаваліся жыццю, але ж іх драўляныя вобразы сталі адным з сімвалаў Познані.

### Самая элегантная полька

...жыве таксама ў Познані. Зразумела, гэта — балерына. Дакладней, кіраўнік тэатра з назвай "Польскі тэатр танца — балет Пазнаньскі". У мінулым 1996 годзе пані Эва Выціхоўска адзначана грамадскай агульнакраёвай узнагародай "Оскар Элеганцыі". Аднак славу ёй прыносіць не толькі элегантнасць, хоць жаночая прыгажосць, як вядома, цэніцца ў Польшчы вельмі высока: пані Выціхоўска амаль дзесяць гадоў узначальвае адзін з найвядомых танцавальных калектываў у краіне. "Балет Пазнаньскі" — гэта дзяржаўная трупа сучаснага танца, якая існуе чвэрць стагоддзя. Трупа не мае ўласнае сцэны, толькі студыю, яе спектаклі праходзяць у "Велькім тэатры" ці на пляцоўках іншых тэатраў, яна шмат гастралюе па свеце. Аднак жа, як дзяржаўны калектыў, "Балет Пазнаньскі" мае адпаведны абавязак перад горадам і перад краінай і дае тут большую значную загадзя колькасць спектакляў. Рэпертуар тэатра складаецца з балетаў у стылістыцы танца "мадэрн", ёсць таксама апрацоўкі класічных балетаў — напрыклад "Баль у Ротбарта" на падставе трэцяга акта "Лебядзінага возера" Чайкоўскага, "Кармэн" на музыку Бізэ—Шчадрына і Віла-Лобаса. Штогод адбываецца ад дзвюх да чатырох прэм'ер, прыкладна палову пастановак ажыццяўляе сама Эва Выціхоўска, іншыя — запрошаныя, часцей з-за мяжы, майстры: напрыклад вядомы рэфарматар балета са Швецыі Мац Эк, заснавальніца і кіраўнік міжнароднага "Кульберг-балета" Берджыт Кульберг, Хіміко Мінато — маладая, вельмі здольная "мадэрн"-танцоўшчыца, якая ставіць уласныя монаспектаклі. Сярод аўтараў музыкі да балетаў тэатра Моцарт, Бах, Стравінскі, Пракоф'еў, польская кампазітары — Караль Шыманоўскі, Тадэвуш Шэлігоўскі. Апошняя прэм'ера тэатра — якраз балет "Дайна" на музыку аркестравай сюіты Шэлігоўскага пад назвай "Казюкі" (так называецца вясновае свята на імяніны Казіміра на пачатку сакавіка, што шырока адзначаецца, напрыклад, на Віленшчыне). Галоўнай ідэяй спектакля, па словах пані Эвы, стала туга па духоўных каштоўнасцях, што страчваюцца, па сапраўды народных святах, на змену якім палякам прапаноўваюцца "неоны", коміксы і рэклама. (Вядома, што большасць выбітных дзеячаў культуры Польшчы паходзілі менавіта з "крэсаў усходніх" — "усходніх акраінаў", землякі цяперашняй Беларусі і Літвы.) Каб захаваць "дух Віленшчыны", Выціхоўска запрасіла да супрацоўніцтва мастака Паўлючыка, які родам з усходу Польшчы. Балет атрымаўся значна больш драматычным, чым гэтага можна было чакаць ад меланхалічнай і лірычнай музыкі Шэлігоўскага. Аднак, як і большасць спектакляў "мадэрн"-балета, ён не дыктуе гледачу дакладнага разумення, кожны можа па-свойму ўспрымаць змест.

Сярод іншых пастановак апошніх гадоў — балет "Дзіця сонца" па матывах камп'ютэрных гульняў (!), харэаграфічная версія класічнага эратычнага рамана Шадэрло дэ Лакло "Небяспечныя сувязі", балет з танцаў фламенка "Ole con Ole", да пастаноўкі якога была запрошана знаўца фламенка з Барселоны. Пані Выціхоўска добра ведае нашага майстра (і, дарэчы, сябра рэдкалегіі "Культуры") Валянціна Елізар'ева, яна бывала некалі і ў Мінску. У складзе яе інтэрнацыянальнага калектыву разам з палякамі, японцамі, рускімі і іспанцамі працуе і выпускнік Мінскай харэаграфічнай вучэльні Аляксандр Азаркевіч.

### "Тут жыве Ганаратка"

Не сустрэцца з суайчыннікам тут, у цэнтры Еўропы, не распытаць пра жыццёвыя беларускага танцоўшчыка за мяжой было б недаравальна. Таму, нягледзячы на тое, што сезон закрыўся і артысты ў тэатры не з'яўляліся, можа, і раз'ехаліся, я ўсё ж узяў у дырэкцыі адрас земляка у Познані: тэлефона ў яго няма. Гадзіну павандраваўшы, дзехаў, нарэшце, як падалося, на прамысловую ўскраіну, адшукаў дом — чатырохпавярховы, цагляны, падобна, даваеннай будовы. Кватэра Азаркевіча была на апошнім, мансардавым паверсе, і тое, што я трапіў дакладна, было відаць па эмблеме "Балета Пазнаньскага", прылепленай да дзвярэй: стылізаваны патроены зоркападобны сілуэт чалавека. А побач па цёмна-рудой фарбе ў стылі графіці прадрапаны надпіс у рамачцы: "Тут жыве Ганаратка". Але ж нікто дзвярэй не адчыніў — Аляксандр з'ехаў-такі ў адпачынак, гэта паведаміла цікаўная суседка-пенсіянерка. А Ганаратка, таксама танцоўшчыца, жыла тут у мінулым годзе...

Штогод, сёлета ўжо чацвёрты раз, "Польскі тэатр танца — балет Пазнаньскі" праводзіць "Варштаты сучаснага танца". Яны пачыналіся як конкурсные выправабаванні па залічэнні новых танцоўшчыкаў у трупу тэатра, па кантракце — на год ці больш. Так у Познань трапіў Азаркевіч, на такіх умовах працавала невядомая Ганаратка. Цяпер многія з танцоўшчыкаў карыстаюцца з магчымасці падчас "Варштатаў" проста падняць сваю кваліфікацыю, падтрымаць зносіны з калегамі. Сёлета "Варштаты" пройдуць з 17 па 24 жніўня па вельмі разнастайнай праграме, у якой пазначаны заняткі галоўным чынам па розных стылях сучаснага танца: "мадэрн", "фанкі-джаз", "брадвейскі дж[illegible]", імправізацыя. Будуць таксама штудыі фламенка, індыйскага танца, класічнага па французскай школе, пантамімы. Кошт курса — ад 100 да 120 злотых (каля 30 долараў ЗША). Можа, і на гэты год нехта з нашых "класічна адукаваных" беларускіх танцоўшчыкаў паспрабуе шчасця ў Познані?

### "У дарогу"

Казаць пра Польшчу і не сказаць пра Касцёл (у шырокім сэнсе) — немагчыма. У Познані касцёлаў — амаль на кожным рагу, у залежнасці ад упадабанняў вернікаў яны розняцца і знешне: аскетычна-строгія — дамініканцаў, велічныя — францысканцаў, закрытыя з усіх бакоў — кляштары "законнікаў" — манахаў і манашак. "Катэдра" знаходзіцца трохі ўбаку ад цяперашняга цэнтра — на выспе Тумскай за рэчкай Вартай, адкуль пачынаўся горад. Цэнтр рэлігійнага жыцця — "фарны касцёл", што ў Старым горадзе, тут адбываюцца, дарэчы, і канцэрты арганнай музыкі. У кожны касцёл можна ўвайсці, зрабіць здымкі — гэта не забараняецца, набыць нешта на памяць. Больш за тое, у горадзе, сярод турысцкіх магазінчыкаў, ёсць і спецыялізаваныя магазіны "У дарогу" з вялізнай колькасцю рэлігійнай літаратуры, аўдыё- і відэакасет і аксесуараў: крыжыкаў, падсвечнікаў, ружанцаў і г.д. Цяпер у продажы брашура аб прыездзе ў Познань папы Яна Паўла II, што меў месца на пачатку чэрвеня. На пляцы Міцкевіча, пад крыжамі паўстанцам 1956 года, папскай пропаведзі некалькі гадзін чакалі больш за сто тысяч вернікаў, не толькі з Познані і нават не толькі з Польшчы. Сабраліся загадзя, таму што прыйсці дакладна на пачатак азначала ўвогуле не трапіць на плошчу: мяркуючы па памерах, сто тысяч чалавек на ёй маглі ўмясціцца, толькі стоячы шчыльна адзін пры адным... Гэтае грандыёзнае шоу, на маю думку, мела няшмат агульнага з сапраўднай верай. Значна больш уражвала мяне, калі, заходзячы ў касцёл, я бачыў цалкам адлучаныя ад зямнога пастацці ўкленчаных, нярэдка і маладых людзей, што моўчкі напружана размаўлялі з Богам. І гэты шчыры зварот да тага, хто разумнейшы і больш магутны, чым любы зямны ўладыка (а можа, гэта зварот да самога сябе, да ўсяго ў сабе лепшага?), напэўна, дадае ім моцы ісці далей па правільным шляху, да невядомай, але выпакутаванай учора і сёння будучыні сваёй краіны...

**Ігар КЛОКАЎ**

(Заканчэнне.
Пачатак на стар. 3)

А найбольш недарэчны, на маю думку, але ціхі скандал адбыўся на конкурсе дзіцячых шоупраграм. Адну з шасці намінацый, менавіта "За лепшы канцэртны нумар", тут атрымаў вакальна-харэаграфічны ансамбль "СЭЛА" з Ізраіля. Шаснаццаць хлопцаў і дзяўчат — усе нарадзіліся на зямлі абяцанай. І хоць іхнія бацькі туды прыехалі з усяго свету, у тым ліку і з былога СССР, гэтыя падлеткі, якіх у Ізраілі называюць "кактусы, калючыя звонку і салодкія ўсярэдзіне", не размаўляюць на мовах бацькоў, а толькі на іўрыце і трохі па-англійску. Таму падчас цырымоніі, якую ніхто не здагадаўся для іх перакласці на англійскую, яны спачатку не зразумелі, што адбылося і чаму іх віншуюць. А калі зразумелі (з дапамогай аўтара гэтых радкоў), дык адразу запыталіся: "Чаму нам не далі рэчавых прызоў?" Сапраўды, іншым прызёрам апрача дыплома ў рамцы яшчэ выносілі ці тэлевізар, ці відэаплэер, ці яшчэ што-небудзь. Высветлілася, што для гэтай намінацыі прызначаліся ролікавыя канькі — адна пара. Але яны дзесьці згубіліся...

Свята горада, што таксама прайшло падчас "Базару", нагадала гасцям, асабліва з Масквы, што Віцебск даўно мінуў 1000-гадовую адзнаку (год яго заснавання — 974), да якой "залатагаловай" сталіцы Расіі яшчэ паўтара стагоддзя. А "Кірмаш рамёстваў" вакол ратушы засведчыў на справе, што майстры тут да гэтага часу не вывеліся. Плеценыя з лазы фатэлі-качалкі арфабавалі Святаславу Бэлза з сябрам Аляксандрам Міхайлавым, да саламяных капелюшоў прыглядалася Элеанора Язерская... Віцебскае піва змаглі ацаніць усе, бо яно — на любы густ: "Замкавае", "Дзвінскае", "Фестывальнае" і нават аднайменнае — "Славянскі базар". Свой 1023-і дзень нараджэння горад адзначыў вярганнем на ратушу старажытнага герба.

### КОНКУРС

Што ні кажы, але ўсё ж цэнтральная з'ява "Славянскага базару" — конкурс маладых выканаўцаў. Дзеля гэтага сюды штогод з'язджаюцца лепшыя маладыя галасы з усёй Еўропы, дзеля гэтага збіраецца міжнароднае, вельмі паважанае журы. Сёлета пад старшынствам Ігара Лучанка канкурсантаў ацэньвалі — Вольга Сяргеева з Чэлябінска, Расія, — "Залатое яйка" (першая прэмія);

— Святлана Слаўкавіч з Югаславіі — Гран-пры, "Залаты певень".

На ўрачыстай цырымоніі ўзнагароджання генеральны прадзюсер і галоўны рэжысёр фестывалю Сяргей Віннікаў асабліва адзначыў "звышсумленную" працу журы. Між тым часам у пратаколах галасавання назіраліся дзіўныя рэчы: той самы выканаўца мог атрымаць найвышэйшую адзнаку ў аднаго і ўдвая меншую — ў другога члена журы. Спадар Лучанок, да якога я звярнуўся па каментарый, шчыра зазначыў, згадаўшы словы Леаніда Уцёсава: "Ніводны конкурс не бывае абсалютна аб'ектыўным". Справядлівасць канчатковага рашэння журы засноўвалася на збалансаваным ягоным складзе. Прынамсі, з гэтым пагадзіліся ўсе канкурсанты.

Святлана Слаўкавіч з Нові Сада, да гонару Філіпа Жмахера, выдатна працягвае традыцыі югаслаўскай эстрады і высокі ўзровень яе прадстаўніцтва на "Славянскім базары". Святлана — вопытная выканальніца, лаўрэат шэрага міжнародных конкурсаў, у тым ліку джазавых. Цікава, што, паводле словаў Святланы, лёс не быў вызначаны ад нараджэння: бацькі назвалі яе ў гонар Святланы Тома, выканаўцы адной з галоўных роляў у вельмі папулярным у свой час нават у Югаславіі фільме "Табар ідзе ў неба". Святлана Слаўкавіч таксама вельмі прыгожая дзяўчына і вельмі шматгранная асоба, да таго ж — студэнтка аддзялення "японскай мовы і літаратуры". На пытанне, чаму цікавіцца Японіяй, зазначыла, што Усход прыцягвае яе вялікай духоўнасцю і філасофіяй, і прывяла адно з выказванняў Лао Цзы, сэнс якога такі: "Той, хто ідзе па Зямлі, пакідаючы добрыя сляды, — ідзе да бессмяротнасці". Святлана — адна з нямногіх канкурсантаў, хто не размаўляе па-руску. На маё пытанне, ці не збіраецца яна пасля японскай мовы засвоіць рускую або беларускую, згодна заківала: так, збіраецца, а наогул, марыць ведаць 7-8 замежных моваў.

Спонсары фестывалю дадалі да афіцыйных ўзнагарод свае, ся-


Тры кіты, на якіх трымалася сцэна (у цэнтры падзей — Алена Спірыдовіч, Уладзімір Бярэзін і Алена Роміна).


Лаўрэат другой прэміі Марына Жолудзева з Оршы.

# БАЗАРЫ

## (Замалёўкі журналісцкім пяром)

### ВІЦЬБІЧЫ

Энтузіязм гаспадароў не памяншаўся круглыя суткі, але ўначы натоўп на вуліцах дасягаў максімальнага памеру. Тыя, хто не трапляў у Амфітэатр, "тусаваліся" на плошчы Свабоды, пад прыгажуном-пеўнем на мачце, перад вялізным тэлевізійным экранам. Гэты тэлевізар — апошні набытак мэра горада, па ім канцэрты глядзець было нават лепш, чым жыццом. Альтэрнатывы чакалі віцьбічаў яшчэ ў Культурна-дзелавым цэнтры ААТ "КІМ" ды ў Коласаўскім тэатры. Пад раніцу трохкутнік паміж летнім Амфітэатрам (галоўнай сцэнай "Базару"), ратушай і тэатрам імя Якуба Коласа пакрываўся тоўстым слоем парожняга шкляного да пластыкавага посуду. У звычайных умовах гэтага смецця хапіла б на тыдзень працы камунальных службаў, цяпер яно прыбіралася за некалькі гадзін. "Дапаможныя службы" — крамкі, "шапікі", закусачныя — у большасці працавалі круглыя суткі, і калі часам іхнія гаспадыні і не выглядалі надта весела, усё ж імкнуліся захаваць ветлівасць для кожнага:

— Жанчына, чаго вы так голасна крычыце?

— Як "чаго" — гэта ў мяне голас такі, каб хапіла на 24 гадзіны...

Кожны віцьбіч адчуваў, напэўна, сябе гасцінным гаспадаром, але кожны — на свой лад. Рослы амапавец, усхваляваны нязвыклай сітуацыяй, тлумачыць дарогу да нядаўна адкрытага Дома-музея Марка Шагала:

— Пройдзеце цэлы квартал проста (жэст направа) праз мост, там будзе Чыгуначны РАУС... А там ужо побач!

яркія зоркі эстрады Юрый Антонаў, Анне Вескі, Марцэла Лайферава, Марыля Радовіч, Лілі Іванава, лаўрэат Гран-пры "Славянскага базару-95" Філіп Жмахер, кіраўнікі тэлерадыёкампаній Беларусі, Расіі, Украіны. Прыязджаў, але не змог дадаць свой голас да ансамбля журы Іван Дзямідаў, замест яго амаль у апошні дзень з'явіўся дырэктар Дырэкцыі праграм тэлерадыёкампаніі "Расія" Андрэй Цвінтарны. Гэтыя і яшчэ некалькі вельмі паважаных і вельмі вопытных асобаў вырашылі лёс узнагарод — і ў нечым лёс канкурсантаў.

Як вядома, Беларусь прадстаўлялі дзве дзяўчыны. 29-гадовая Стэла Караганава — лаўрэат некалькіх беларускіх фестываляў ("Мінск—95", "Золотые ключи", "Зорная ростань—97") і замежнага, джазавага ў Буфала, ЗША. Марына Жолудзева з Оршы — самая маладая канкурсантка, ёй толькі 16 гадоў і яна таксама лаўрэат "Зорнай ростані—97". Напэўна, ёй было цяжэй за іншых — не толькі з-за недахопу творчага і жыццёвага вопыту: згодна з жэрабем, яна адкрывала абодва туры конкурсных выпрабаванняў. І здолела паспрачацца з лёсам, заваяваўшы другую прэмію — "Сярэбранае яйка". Гэта безумоўны поспех Беларусі — і яскравае сведчанне добрага ўзроўню "Зорнай ростані". На гэта звярнуў увагу мастацкі кіраўнік Марыны кампазітар Алег Елісеенкаў, які дапамагаў ёй рыхтавацца да "Славянскага базару" разам з яе аршанскімі настаўнікамі са студыі "Рафлезія".

Іншыя ўзнагароды атрымалі:

— Інэш Кдырава з Украіны — "Крышталёвае яйка" (трэцяя прэмія);


Уладальніца Гран-пры і прыза "Залаты певень" Святлана Слаўкавіч з Югаславіі.


Алена Свірыдава зусім не "бедная авечка".

род якіх чайныя сервізы, магнітафоны, пуцёўкі. Кіраўнік дэлегацыі Ізраіля ўручыў пуцёўку ў Ізраіль зноў-такі нашай Марыне. Фірма "Bayerdynamics" свае выдатныя мікрафоны прэзентавала некальнім выканаўцам — і дырэктару "Зорнай ростані" Таццяне Касмачовай.

Кіраўнік Беларускага тэлебачання Рыгор Кісель уручыў спецыяльную ўзнагароду "За высокі прафесіяналізм" Алене Цой з Казахстана — паводле жэрабя яна выступала апошняй. Галоўнае, з чым пагадзіліся і выканаўцы, і судздзі, выказаў Вячаслаў Ганелін: "Дзякаваць Богу, што ёсць "Славянскі базар"!"

**Ігар КЛОКАЎ,**
**наш спецыяльны карэспандэнт.**

**Фота Ігара КЛОКАВА ("К"), Аляксандра ТАЛОЧКІ, Віктара ТАЛОЧКІ, Аляксандра ХІТРОВА (БелТА).**

К КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Галоўны рэдактар — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГЛЕП, Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА (рэдактар аддзела), Ігар КЛОКАЎ (рэдактар аддзела), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Алена ПІСЬМЯНКОВА (рэдактар аддзела), Міхаіл ПТАШУК, Алег ТРУСАЎ, Юрый ЦВЯТКОЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — Жанна ВАСАНСКАЯ, Барыс КРЭПАК
Спецкарэспандэнты: Міхась БАШУРА, Зміцер ВІШНЁЎ, Сяргей МІНСКЕВІЧ
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — Генадзь ЖЫНКОЎ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3450.
Падпісана ў свет 17.07.97. у 16.00.
Замова 4120
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.